13 кастрычніка 2017 | № 38 (552)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Калектывізацыя ў Мінскім раёне**
Стар. 10











# Ці ёсць у Беларусі варыянты змены ўлады?



Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Здавалася б, сама пастаноўка пытання трохі дзіўная. Бо ў дэмакратычным свеце існуе прапісаны ў Канстытуцыі стандартны спосаб змены ўлады праз выбары.**

Але ва ўмовах жорсткага аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі гэты дэмакратычны механізм не працуе, ён заблакаваны. Сапраўдных выбараў тут няма, легальны, легітымны спосаб змены ўлады немагчымы.

Тады якія існуюць іншыя, нелегітымныя, неінстытуцыянальныя сродкі і механізмы ўладных пераменаў? Яны ёсць — апісаны ў палітычнай літаратуры, шмат разоў адбываліся ў гісторыі.

Найперш, канечне, рэвалюцыя. Гэта калі народ выходзіць на вуліцы і зрынае існую ўладу. Як тое было 100 гадоў таму ў Расіі ці тры гады таму ва Украіне падчас другога Майдану.

Ужо даводзілася пісаць, што выбух народнага незадаволення — рэч непрадказальная і непрагназуемая. На мой погляд, беларусы саспелі, каб на выбарах прагаласаваць супраць Лукашэнкі, але не саспелі да рэвалюцыі. Хоць Лукашэнка вельмі баіцца вулічнага пратэсту, заўсёды рэагуе на яго вельмі хваравіта.

Варта заўважыць, што, увогуле, беларускае грамадства, паводле сваёй сацыяльнай прыроды з пэўным піетэтам ставіцца да дзяржавы, да парадку, які яна ўвасабляе. Таму верагоднасць рэвалюцыйнай змены ўлада нам падаецца невысокай.

Іншы варыянт нелегітымнага зрынання існага палітычнага рэжыму — дзяржаўны пераварот. Ён магчымы толькі з дапамогай сілавых структур.

Але ў Беларусі, у адрозненне, напрыклад, ад краін Лацінскай Амерыкі ці Турцыі, няма традыцыі ўмяшання войска ў палітычнае жыццё. Да таго ж у нашай краіне існуе, паводле маіх падлікаў, 9 (дзевяць!) структур з правам аператыўна-вышуковай дзейнасці. Усе яны сочаць адна за адной, а кіраўнікі падпарадкаваны непасрэдна Лукашэнку. У такіх умовах здзейсніць пераварот вельмі цяжка.

Апошнім часам шмат размоваў і публікацый наконт таго, што, магчыма, хутка Лукашэнка перадасць уладу нейкаму пераемніку. Хацелася б спыніцца на гэтым пытанні больш падрабязна.

Пытанне пра пераемніка ўсплывае ў асяроддзі палітызаванай публікі ў пэўныя моманты, калі здаецца, што яно набывае актуальнасць. Пра яго шмат казалі ў перыяд паміж 2001 і 2004 гадамі, калі Лукашэнка ўступіў у свой другі прэзідэнцкі тэрмін, а ў Канстытуцыі захоўвалася абмежаванне на займанне прэзідэнцкай пасады адным чалавекам. Потым з'яўленне Віктара Лукашэнкі як палітычнай фігуры актуалізавала гэтыя развагі. Зноў на гэтую тэму пачалі гаварыць пасля таго, як Пуцін саступіў пасаду прэзідэнта РФ Мядзведзеву. Ужо гэтым годам кіраўнік Беларусі падчас размовы з галоўным рэдактарам «Народнай волі» Іосіфам Сярэдзічам казаў, што задумваецца над тым каб сысці са сваёй пасады.

Адразу хачу адзначыць, што рэалізацыя такога варыянту ва ўмовах сённяшняй Беларусі выглядае маларэальнай па некалькіх прычынах. Найперш, у постаці Аляксандра Лукашэнкі мы маем справу з чалавекам, у якога велізарная прага да ўлады. Для яго ўлада — гэта не толькі сэнс жыцця,




**Для Лукашэнкі ўлада — гэта не толькі сэнс жыцця, але адзіна магчымы спосаб існавання**

але адзіна магчымы спосаб існавання. Ён увесь час атаясамлівае адхіленне яго ад улады з пагібеллю і кажа, што будзе абараняць сваю пасаду са зброяй, нават калі застанецца адзін.

Але нават калі раптам уявіць неверагоднае, што Лукашэнка стаміўся ад улады і захацеў бы яе пакінуць, то ўзнікае адна вялізная праблема. За чвэрць стагоддзя знаходжання на пасадзе ён вельмі шмат наварочаў, таму непазбежна ўзнікне пытанне аб адказнасці. Знойдзецца шмат людзей, прычым, не абавязкова з апазіцыі, каб з ім палічыцца. У выніку нельга выключаць, што пасля адстаўкі ён можа аказацца ў ролі падсуднага. Ці можна гэтага пазбегнуць, неяк гарантаваць недатыкальнасць з дапамогай заканадаўчых механізмаў ці асабістых абяцанняў ад пераемніка? Усё гэта зрабіць можна, аднак узнікае шэраг праблемаў.

Па-першае, як любы аўтарытарны кіраўнік, дзейны беларускі лідар нікому не верыць, падазрае ўсіх у нелаяльнасці, здрадзе. Ён ніводнаму чалавеку не зможа даверыць свой лёс.

Па-другое, ён разумее, што ў палітыцы любыя гарантыі і дамоўленасці з'яўляюцца адноснымі. Іх захоўванне залежыць не ад ступені юрыдычнага замацавання, а ад суадносін палітычных сілаў. Любы закон ці нават артыкул канстытуцыі можна адмяніць. Аўгуста Піначэт у Чылі перад сваёй адстаўкай стварыў шматпавярховую сістэму гарантый уласнай недатыкальнасці. Аднак ад турмы яго выратавала толькі смерць. Вельмі шмат прыкладаў, як пад суд трапляюць былыя дыктатары.

Па-трэцяе, існуе варыянт, калі лідар сыходзіць са сваёй пасады фармальна, перадае ўладу «зіц-старшыні», застаючыся рэальным кіраўніком. Гэта магчыма, калі чалавеку не вельмі важныя вонкавыя атрыбуты ўлады, ён нармальна сябе пачувае ў статусе «шэрага кардынала». Як Уладзімір Пуцін у Расіі на чатыры гады перадаў пасаду прэзідэнта Дзмітрыю Мядзведзеву. Але гэта яўна не наш варыянт.

Працяг на стар. 2 »

# «Галоўнае — шмат скрасці»

Вольга БУРАЯ

**Дырэктара таксі «Алмаз» Віктара Пузікава адпусцілі з СІЗА пад хатні арышт. У сеціве шмат хто здзівіўся такому павароту падзей.**

Паведамляецца, што малады прадпрымальнік кампенсаваў у поўным аб'ёме ўсю шкоду, усталяваную па справе: больш за 1 мільён 400 тысяч рублёў.

Віктара Пузікава затрымалі ў чэрвені па абвінавачванні ў нясплаце падаткаў. Цікава, што тады многія намякалі на форумах і ў СМІ на яго цесныя (у тым ліку нібыта родныя) сувязі з прадстаўнікамі ўлады. Гучала меркаванне, што прадпрымальнік здолее адкупіцца.

Пакуль сітуацыя з Віктарам Пузікавым нагадвае ранейшыя гісторыі з буйнымі бізнесоўцамі, якія кампенсавалі ўрон, пераводзіліся пад хатні арышт і, урэшце, вызваляліся ад крымінальнай адказнасці.

У артыкуле 88-1 Крымінальнага кодэкса гаворыцца: «Асоба, якая ўчыніла злачынства... можа быць вызвалена ад крымінальнай адказнасці ў парадку, устаноўленым заканадаўчым актам, калі яна добраахвотна вярнула прычынены ўрон (шкоду), заплаціла даход, атрыманы злачынным шляхам...»

Аляксандр Лукашэнка неаднаразова заяўляў, што прадпрымальнікі могуць быць вызвалены ад крымінальнай адказнасці, калі кампенсуюць нанесеную шкоду ў шматразовым памеры. У розны час кіраўнік дзяржавы гаварыў пра двух-, трох- і нават пяцікратны памер.

У мінулым годзе старшыня КДБ заявіў, што ўладальнік групы кампаній «Біякам» сенатар Андрэй Паўлоўскі быў памілаваны Аляксандрам Лукашэнкам пасля кампенсацыі шкоды ў «кратным» памеры.

Аднак, паводле інфармацыі Следчага камітэта, Віктар Пузікаў выплаціў больш за 1 мільён 400 тысяч рублёў, што супадае з сумай, якая фігуравала ў абвінавачванні. Выходзіць, дырэктар таксі «Алмаз» шкоду кампенсаваў не ў шматразовым памеры — прынамсі, пакуль.

Адно з вядомых выказванняў Марка Твэна абвяшчае: «Таго, хто скраў булку, — пасадзяць у турму. А таго, хто скраў чыгунку, — выберуць у парламент». Перавод Віктара Пузікава пад хатні арышт выклікаў здзіўленне на форумах. Пытанне, якое хвалюе многіх, чаму ў адрозненне ад шараговых грамадзян буйныя кіраўнікі могуць пасля кампенсацыі шкоды разлічваць на паблажлівае стаўленне дзяржавы да іх крымінальнага пераследу?

Выбіральнасць у падыходзе да парушальнікаў закону для карыстальнікаў інтэрнэту не зусім зразумелая. У многіх каментарах прыводзіцца прыклад з крадзяжом меху бульбы, за што можна атрымаць некалькі гадоў.

«Галоўнае — шмат скрасці, таму што за капейкі ўлепяць па поўнай», — пішуць на дыскусійнай пляцоўцы talks.by.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Лекцыя ў міліцэйскім пастарунку

**Гродзенскія студэнты і актывісты правялі больш за 5 гадзін у пастарунку Ленінскага РАУС Гродна.**

На лекцыю расійскага філосафа Пятра Рабава, якая мусіла адбыцца ў прасторы «Цэнтр гарадскога жыцця», уварваліся людзі ў масках і затрымалі ўсіх яе ўдзельнікаў.

Пра падзеі распавядае супрацоўнік Цэнтра гарадскога жыцця Сяргей Герман:

— Лекцыя толькі пачалася, як уварваліся супрацоўнікі АМАПу Ленінскага РАУСа. Прыпынілі лекцыю. Нікога, канешне, не вязалі. Пасля завезлі нас без тлумачэнняў прычын, без тлумачэння, хто яны такія, у Ленінскі РАУС. Кіраваў імі чалавек у цывільным з закрытым тварам. Мне інкрымінуюць арганізацыю несанкцыянаванага масавага мерапрыемства, якое адбылося ў памяшканні.

Для Пятра Рабава, які хацеў прачытаць у Гродна лекцыю пра лібертарыянства, затрыманне і пяць гадзін у пастарунку былі вялікім здзіўленнем:

— Я думаю, што іх напалохала страшнае слова «анархія». Яны ў мяне забралі 11 кніжак, дзе ёсць гэтае страшнае слова. Наколькі я разумею, ніякіх асабіста мне, на шчасце, адміністрацыйных і крымінальных спраў не пагражае. Спачатку нас вінавацілі ў правядзенні мітынгу. Яны казалі, што ўсё трэба ўзгадняць, і, прывозячы нейкую кнігу, трэба даведвацца, ці не забаронена яна ў Беларусі. Тады трэба проста зачыніцца ў пакоі і нікуды не выходзіць, бо паездка ў іншы горад, лекцыя і распаўсюд кніг, якія ты набыў у Расійскай Федэрацыі, ужо можа быць падсудной справай.

Пётр Рабаў ужо неаднаразова да гэтага наведваў Беларусь. Удзельнічаў у розных анархічных і антыядзерных акцыях і быў неаднаразова затрыманы як у Расіі, так і ў Беларусі.

**Паводле Беларускага Радыё Рацыя**

# Ці ёсць у Беларусі варыянты змены ўлады?

**« Працяг. Пачатак на стар. 1**

Для Лукашэнкі вонкавыя атрыбуты ўлады не менш важныя, чым сама ўлада.

Нарэшце — гэта ўжо па-чацвёртае — схема «Пераемнік» не спрацуе і па прычыне сістэмнага характару. Існуюць розныя тыпалогіі аўтарытарных рэжымаў. Для нашага выпадку важны падзел на алігархічныя і персаналісцкія рэжымы.

Дык вось, гарантыі недатыкальнасці лепш рэалізуюцца ва ўмовах алігархічных рэжымаў, дзе ўлада належыць групе людзей. Сістэма падобнага кшталту дзейнічала ў СССР у апошнія дзесяцігоддзі ягонага існавання («перыяд застою»), дзе ўлада належала палітбюро ЦК кампартыі. Сёння такая палітычная мадэль існуе ў Кітаі. У рэжымах падобнага тыпу ўладу трымае алігархічная групоўка. І прозвішча першай асобы ва ўладнай іерархіі не мае вырашальнага значэння, бо гэта не ўплывае на ўстойлівасць сістэмы. То бок гарантам выканання дамовы з'яўляецца тая алігархічная групоўка, якая прывяла лідара да ўлады.

Зусім іншая справа ў Беларусі. Тут сфармаваны персаналісцкі рэжым, рэжым асабістай улады. Уся сістэма ўладных інстытутаў і механізмаў скроеная і пашытая пад аднаго чалавека, па яго вобразу і падабенству, замкнутая выключна на ім. Ён з'яўляецца яе цэнтральным звяном. Больш за тое, у нашым выпадку гаворка ідзе пра лідара з элементамі харызмы, якая не перадаецца пераемніку. З гэтага вынікае, што ў такой сістэме асоба, якая стаіць на чале рэжыму, з'яўляецца незаменнай. Калі ж яна змяняецца, то гэта часцей за ўсё цягне за сабой змену палітычнага рэжыму.

Былі выпадкі, калі пераемнікам удавалася захаваць рэжым у ранейшым стане (Гурбангулы Бердымухамедаву пасля смерці Туркменбашы ў Туркменістане, Шаўкату Мірзіёеву пасля сыходу з жыцця Іслама Карымава ва Узбекістане). Але для XXI стагоддзя гэта хутчэй выключэнне.

Гістарычны досвед апошніх ста гадоў паказвае, што, як правіла, калі сыходзіць дыктатар, які доўгі час аднаасобна кіраваў краінай, то ягоным нашчадкам рэдка ўдаецца захаваць рэжым у ранейшым выглядзе, часцей за ўсё адбываецца яго трансфармацыя. Так было пасля смерці Іосіфа Сталіна ў СССР, Франсіска Франка ў Іспаніі, Іосіфа Броз Ціта ў Югаславіі і нават Маа Цзэдуна ў Кітаі. Мы бачым, як цяжка захаваць ранейшы рэжым цяперашняму прэзідэнту Венесуэлы Нікаласу Мадуры пасля смерці харызматычнага Уга Чавеса.

Інакш кажучы, без Аляксандра Лукашэнкі існы палітычны рэжым у Беларусі нежыццяздольны. Каму б ні перайшла ўлада, рэжым будзе вымушаны хутка альбо паступова трансфармавацца.

Але ж праблема ў тым, што любыя гарантыі і дамоўленасці з пераемнікам маюць сэнс толькі ў рамках таго рэжыму, у якім яны заключаліся. Калі ж са зменай лідара трансфармуецца рэжым асабістай улады, то ўсе дамоўленасці абясцэньваюцца. Які сэнс дамаўляцца аб нечым з пераемнікам, калі той не ў стане ўтрымаць уладу ў нязменным выглядзе, вымушаны яе дзяліць з іншымі інстытутамі (напрыклад, з парламентам), групамі ці людзьмі. А гэтыя апошнія не звязаныя з папярэднікам ніякімі дамовамі. Таму якія б гарантыі ні даваў пераемнік, ён не зможа іх выканаць, бо ў яго ўжо не будзе абсалютнай улады.

Наўрад ці Лукашэнка разважае ў такіх катэгорыях, але пачуццё небяспекі ў яго надзвычай вострае. І яно прыводзіць яго да высновы, што не трэба нікуды сыходзіць.

Таму ў цяперашняга беларускага ўладара няма іншага выйсця, як заставацца ва ўладзе пажыццёва. Парадокс у тым, што Лукашэнка — не толькі архітэктар і стваральнік гэтай сістэмы, але і яе закладнік. Ён не можа з яе выйсці, пакінуць сваю пасаду, нават калі б і хацеў. І гэта сапраўдная трагедыя, тупік, як для грамадства, дзяржавы, так і для самога Лукашэнкі. І нейкага легальнага варыянту выйсця з яго я не бачу.

# «Нас робяць забойцамі супраць нашай згоды»

**Магілёўскае аддзяленне праваабарончага цэнтра «Вясна» ў Дзень супраць смяротнага пакарання арганізавала кінапрагляд з дыскусіяй у грамадскім цэнтры «Кола».**

Паглядзець фільм «Пабіванне камянямі Сарайі М.» і пагаварыць пра важнае прыйшлі паўтара дзясяткі чалавек.

У кінастужцы распавядаецца гісторыя іранскай жанчыны, якую з-за змовы яе мужа з уладамі вёскі, дзе яна жыла, прысудзілі да жудаснага смяротнага пакарання — забілі камянямі. Гісторыя рэальная і адбылася ў Іране напачатку 80-х гадоў.

Як распавёў адзін з арганізатараў Аляксандр Буракоў, фільм спецыяльна падабралі больш жорсткі.

— У Дзень супраць смяротнага пакарання мы хацелі паказаць такі фільм, які лепш за ўсё б дэманстраваў, наколькі гэта брыдка, не па-людску і ненатуральна для чалавека — забіваць, — паведаміў праваабаронца.

Іншага арганізатара Дзмітрыя Тоўсціка закранула тое, што ў фільме смяротны прысуд выносяць невінаватаму чалавеку:

— Нам было важна паказаць, што такія памылкі вельмі дорага каштуюць, а выправіць іх немагчыма. Усё роўна, адбываецца гэта ў Іране 1980-х ці ў Беларусі 2010-х.

Удзельнікі мерапрыемства ўспрынялі стужку па-рознаму. Хтосьці плакаў з-за жорсткасці на экране, некаторыя знайшлі «Пабіванне камянямі Сарайі М.» сумным фільмам. Большасць выказала думку, што сітуацыя на экране — гэта варварства, і пра гэта варварства трэба гаварыць.

— Такія фільмы трэба круціць па БТ і АНТ, і тады сітуацыя са смяротным пакараннем у краіне зменіцца, — выказаў меркаванне адзін з удзельнікаў дыскусіі.

Многія адзначылі падабенства паміж Іранам 80-х гадоў і сучаснай Беларуссю.

— Пабіванне камянямі — гэта абязлічаныя пакаранне. Ніхто не ведае, чый менавіта камень скончыць жыццё чалавека, — выказаўся адзін з гасцей.

Праваабаронца Аляксей Колчын на гэта заўважыў, што падобны прынцып выкарыстоўваецца ў нашай краіне:

— Смяротныя прысуды выносяцца імем Рэспублікі Беларусь. Гэта значыць, што дзяржава адпраўляе іншых людзей на смерць ад імя кожнага з нас, прычым не запытваючы. Я супраць гэтага. Нас робяць забойцамі без нашай згоды.

Удзельнікі дыскусіі ў асноўным выступілі супраць смяротнага пакарання. У тым ліку і таму, што бацькам не выдаюць цела для пахавання, а месца пахавання невядома.

— Дзяржава бышцам бы са здзекам дасылае родным толькі турэмную робу, у якой іх сын хадзіў да смяротнага прысуду, — распавёў удзельнік дыскусіі.

Напрыканцы кожны з гасцей мерапрыемства адказаў, што ён можа зрабіць, каб смяротнае пакаранне ў Рэспубліцы Беларусь адмянілі.

— Я думаю, што калі распавесці пра аргументы супраць смяротнага пакарання сваім сябрам, а яны потым раскажуць сваім знаёмым, то так можна дамагчыся пераменаў, — падвяла вынікі ўдзельніца кінапрагляду.

**Паводле mspring.online**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Аксамітны сезон

Сяргей САЛАЎЕЎ

**Тым, хто не адпачыў або недаадпачыў улетку, самы час узгадаць пра «аксамітны сезон» і пачаць адпачываць зараз. Падобна, што менавіта так робіць Аляксандр Рыгоравіч.**




На тыдні наш кіраўнік злётаў у Сочы. 11 кастрычніка, як паведамляецца, ён прыняў удзел у пасяджэннях арганізацый СНД: Савета кіраўнікоў краін СНД і Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета. На гэтых пасяджэннях Лукашэнка агучыў «падыходы Беларусі» да інтэграцыйных аб'яднанняў.

Канешне, цікава, пра што яны паразмаўлялі з Пуціным, асабліва пасля таго, як не здолелі сустрэцца на вучэннях «Захад–2017». Але, варта зазначыць, што ў Пуціна — прэзідэнцкія выбары, а Лукашэнка не так даўно прымаў у візітам ягонага канкурэнта Генадзя Зюганава. Таму наўрад ці расійскі кіраўнік асабліва заклапочаны беларускім пытаннем.

Апаненты беларускага кіраўніка ў інтэрнэце адразу пачалі кпіць: «Паехаў зноў грошы вытрасаць! Колькі можна?» Але, насамрэч, ці справядлівы такі падыход? Як падлічылі эканамісты Расійскай акадэміі народнай гаспадаркі і дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расіі і Інстытута Гайдара, Беларусь паводле памераў расійскай дапамогі нават не ўваходзіць у першую дзясятку. Мы — толькі на 13-м месцы.

Лідарам па атрыманых сродках з Расіі з'яўляецца Кыргызстан (652,9 млрд долараў), далей ідуць Куба (537,29 млрд), КНДР (199,69 млрд), Нікарагуа (143,69 млрд), Сербія (86,52 млрд), Таджыкістан (79,57 млрд), Арменія (57,28 млрд), Сірыя (53,55 млрд), Гвінея (29,880 млрд), Іарданія (16,03 млрд), Афганістан (12,87 млрд) і Кенія (8,57 млрд).

Агульная сума замежнай фінансавай дапамогі Расіі ў 2011–2015 гады склала 2379,4 млрд долараў. «Самая братняя сінявокая» атрымала з гэтай сумы слёзы ў памеры 7,05 млрд. долараў.

Канешне, эксперты кажуць, што «аб'ёмы прамой эканамічнай дапамогі значна меншыя, чым схаванае субсідаванне для краін Еўразійскага эканамічнага саюза (ЕАЭС)… за кошт трансфертаў, якія ўтвараюцца з-за адсутнасці экспартнай пошліны на пастаўку энерганосьбітаў». Але ж, выбачайце, ЕАЭС — гэта цацка Пуціна, і таму лагічна, што ён за яе і плаціць.

Так што ў Сочы Аляксандр Рыгоравіч злятаў на адпачынак. І хутка яму прадставіцца магчымасць пахадзіць па еўрапейскіх буціках. Розныя крыніцы ў Еўропе кажуць, што асабіста Лукашэнку будзе накіраванае запрашэнне на саміт «Усходняга партнёрства», які 24 лістапада пройдзе ў Брусэлі.

Папярэднія чатыры саміты прайшлі без удзелу Лукашэнкі — Еўрасаюз, які ўвёў санкцыі супраць Беларусі, запрашэнні дасылаў, але даваў зразумець, што прысутнасць кіраўніка краіны на саміце не пажаданая. Як правіла, на сустрэчах Беларусь прадстаўляў кіраўнік МЗС Уладзімір Макей.

«Пытанне толькі ў тым, ці паедзе ён сам у Брусэль. Вядома, ёсць немалая доля крытыкі Беларусі з боку краін-удзельніц Еўрасаюза. Тым не менш, думаю, што ад гэтай паездкі вельмі шмат выгод», — лічыць старшы аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў Дзяніс Мельянцоў.

На мой жа погляд, галоўнае пытанне не ў тым, паедзе Лукашэнка ў Брусэль, альбо не. Пытанне, ці з'явіцца ён на сесію «Усходняга партнёрства» ўвогуле. Ад гэтай арганізацыі нам, па вялікім рахунку, ні холадна, ні горача, бо ў «разбэшчаную Еўропу» мы не імкнёмся. І таму на саміце большага ўзроўню, чым Макей, нам і не трэба. А Аляксандру Рыгоравічу было б больш цікава паглядзець на дасягненні народнай гаспадаркі Еўрасаюза.

Так што на месцы арганізатараў гэтага візіту я б заклапаціўся праграмай: наведванне перадавой фермерскай гаспадаркі, малакаперапрацоўчага заводу, фермы па вырошчванні мармуровай ялавічыны, адмысловых гатункаў бульбы ці кавуноў…

І нічога смешнага тут няма. Аляксандр Рыгоравіч сёлета ўжо ездзіў у Туркменістан на «праблемнае прадпрыемства» — Гарлыкскі горна-ўзбагачальны камбінат. Дык чаму ж тую ж фішку не правярнуць і ў Еўропе? Чым еўрапейскі фермер горшы за працоўнага туркмена?

Хай Аляксандр Рыгоравіч зоймецца любімай справай, тым больш, што ў краіне ўсё ідзе сваім парадкам і без яго ўмяшання. Напрыклад, на тыдні стала вядома, што ва ўладных калідорах рыхтуецца праект дэкрэта «Аб забеспячальніцкім дэпазіце». Згодна з гэтым праектам, беларускія бізнесоўцы здолеюць адкрыць у Беларусбанку рахунак на суму не менш за 50 тысяч рублёў. І гэты рахунак будзе з'яўляцца… падстрахоўкай ад дасудовай «пасадкі» бізнесоўца, калі на яго раптам выйдуць следчыя!

Гэта падобна на фэйк, але раней «Эканамічная газета», якая пра гэта напісала, не была заўважана з розыгрышах сваіх чытачоў па-за межамі 1 красавіка.

Сутнасць дэпазіту — у практыцы, калі бізнесоўца спачатку садзяць, потым ён прызнае сваю віну і кампенсуе дзяржаве нанесеную шкоду, і яго адпускаюць нават без суда. Зараз прапануецца выключыць з гэтага ланцужку «непатрэбных пасярэднікаў» у выглядзе следчых, адвакатаў, пракурораў… Зараз да бізнесоўца прыходзяць «органы» і кажуць: «У нас ёсць падстава лічыць цябе злачынцам. Маеш дэпазіт? Тады мы спісваем з яго суму тваёй шкоды, і больш так не рабі».

Што цікава, акрамя таго, што прынцып такога дэпазіту поўнасцю знішчае прэзумпцыю невінаватасці? Цікава тое, што звесткі пра такі дэпазіт складаюць банкаўскую таямніцу, але праваахоўныя органы атрымаюць да іх доступ праз сістэму дыстанцыйнага абслугоўвання банка. І тое, што ўнесці такі дэпазіт будзе дазволена як за самога сябе, так і за іншых, і можна распаўсюдзіць яго дзеянне адразу на некалькіх асоб. Кола «ўносячых» і «забяспечаных» асоб не абмяжоўваецца.

А зараз уявім сітуацыю: надакучыла мне нейкая фірма «Х» да такой немагчымасці, што я ўношу за яе кіраўніка гэты дэпазіт. Праваахоўныя органы атрымліваюць да яго доступ і… пачынаюць «капаць». Не проста ж так уладальнік фірмы «Х» завёў сабе такой дэпазіцік, значыць, нешта там не так! Кошт выдалення канкурэнта — 25 тысяч долараў.

Вось, напрыклад, як паведаміла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Юлія Ганчарова, скончана расследаванне па справе былога дырэктара заапарка Мінска і яго жонкі. Расследаванне ўстанавіла, што на працягу 2014–2015 гадоў дырэктар выкраў і прадаў грамадзяніну Расіі цэлы шэраг жывёл. У адным з эпізодаў з заапарка без афармлення былі прададзеныя 23 фламінга.

А калі б у гэтага дырэктара быў такі дэпазіт? Птушак, безумоўна, шкада, але і грошы на дарозе не валяюцца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Алег Ларычаў



**Вядомы мастак і каардынатар беларускай стрыт-арт супольнасці «Signal» паведаміў пра спыненне дзейнасці.**

Такім чынам, «Signal» — праект, які з 2011 года прапагандаваў мастацтва стрыт-арта ў Беларусі і ладзіў Мурал-фестываль «Urban Myths» і «MustAct — MustArt», зачыніўся. Паведамленне пра гэта з'явілася на старонцы супольнасці ў Фэйсбуку, пасля чаго сама старонка была выдаленая.

Ларычаў даваць разгорнуты каментар з нагоды сітуацыі адмовіўся: «Гэта нічога не прыносіць, — коратка сказаў ён у размове з «Еўрарадыё». — Магчыма, праект працягне нехта іншы».

«Signal» першы публікаваў на сваіх старонках інфармацыю пра новыя графіці і муралы, якія з'яўляліся на сценах Мінска і іншых беларускіх гарадоў. Ён жа паведамляў пра метамарфозы, якія здараліся як з малюнкамі на сценах (напрыклад, іх замалёўваў ЖЭС).

У апошнія месяцы ў Мінску з'явіўся шэраг вострасацыяльных графіці і постэраў: калючы дрот на малюнку, які сімвалізуе дружбу Мінска і Масквы, налепкі «зялёных чалавечкаў» і аплікацыі з партрэтамі розных чыноўнікаў. Аўтары постэраў з выявамі чыноўнікаў і «зялёных чалавечкаў» невядомыя, але «адказваў» за ўсё Ларычаў, якога збівалі, штрафавалі і асуджалі на адміністрацыйны арышт за «дробнае хуліганства».

## Ганна Канапацкая



**Дэпутатка Палаты прадстаўнікоў, якая балатавалася ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі, цяпер вырашыла стварыць свой рух.**

Як напісала Канапацкая ў Фэйсбуке, «большасць беларусаў не вераць ні дзеючай уладзе, ні існуючай апазіцыі», а таму яна пачынае рэспубліканскую грамадзянскую кампанію «Наперад, Беларусь!». «Гэта прынцыпова новы палітычны рух у нашай краіне. Яго місія — вольны чалавек, моцная сям'я, багатая Беларусь. Галоўныя мэты кампаніі — рэальнае прадстаўленне інтарэсаў грамадзян у дзяржаўных органах улады ўсіх узроўняў, атрыманне яе лідарамі і актывістамі дэпутацкай большасці ў парламенце і мясцовых саветах шляхам актыўнай барацьбы за ўладу, фарміраванне асноўнага прадстаўніцтва ва ўрадзе, выканаўчых і распарадчых органах улады».

Шчыра кажучы, нічога «прынцыпова новага» Канапацкая не вынайшла, таму большасць каментатараў паставіліся да такой ініцыятывы скептычна, зазначыўшы, што выбараў у краіне няма, і ні пра якое прадстаўленне грамадзян у органах улады і дэпутацкую большасць у ППНС размова ісці не можа. Да таго ж не зразумела, што замінае дэпутатцы працаваць у межах сваёй партыі.

## Максім Мірны



**Знакаміты беларускі тэнісіст даў інтэрв'ю часопісу «Большой», дзе расказаў не пра спорт, а пра бізнес.**

Напачатку Мірны згадаў, што ў самым пачатку кар'еры паміж турнірамі начаваў у машыне, бо не хапала грошай нават на сціплы матэль. «Памятаю, калі мне было 16 гадоў, з першай прафесійнай паездкі прывёз 3,5 тысячы долараў — для мяне гэта тады было эквівалентна сотням мільёнаў. Мне было радасна тое, што я, па-першае, мог зняць з бацькі ціск, па-другое, пачынаў развівацца як прафесіянал», — распавёў Мірны.

Па яго словах, моцнага бізнесоўца з яго не выйшла: «Мы на працягу доўгага часу былі ўладальнікамі некалькіх рэстаранаў у Мінску — гэта быў працяглы працэс, падчас якога атрымлівалі станоўчыя эмоцыі, але ў выніку прыйшлі да высновы, што рэстаранны бізнес — не для нас». Мірны не здымаецца ў «неправеранай» рэкламе: «Здымкі ў такіх роліках — выверaны і прадуманы для мяне крок: з гэтымі кампаніямі ў мяне склаліся шматгадовыя адносіны. Карыстаюся касметыкай ад «Віцэкс», у кампаніі «B&B Insurance» у мяне застрахавана нерухомасць».

А ўвогуле, чым беларускі бізнесовец адрозніваецца ад заходняга? «Беларусы надзелены генетычным цярпеннем, бо нашай нацыі давялося многае перажыць… Я люблю наш народ, але хацелася б, каб ён быў больш прадпрымальным, разваротлівым. Часам здаецца, што нашым людзям не хапае смеласці рызыкнуць», — кажа Мірны.

# Прызыў–2017: як не трапіць у войска?

Мікіта ПАЎЛАЎ

**Амаль усю Беларусь скаланула смерць у Печах 21-гадовага Аляксандра Коржыча. Родныя і сваякі нябожчыка кажуць пра жудасную дзедаўшчыну ў вайсковай частцы.**

Варта дадаць, што за год гэта не адзіны такі выпадак. 31 сакавіка там жа, у Печах, скончыў жыццё самагубствам 25-гадовы салдат тэрміновай службы. Хлопец не раз скардзіўся сваім бацькам на дзедаўшчыну, родныя паведамілі пра гэта камандаванню часткі. Але тое не дапамагло.

Зараз у Беларусі ў самым разгары прызыўная кампанія. Пад яе трапляюць мужчыны ад 18 да 26 гадоў уключна. Штогод у нашай краіне праходзяць дзве такія кампаніі: у лютым-маі і жніўні-лістападзе. Толькі ў гэты час хлопцаў могуць адправіць на службу.

Зважаючы на трагічныя выпадкі ў нашым войску, «Новы Час» разам з праваабарончай кампаніяй «Цэнтр правоў прызыўніка» вырашыў распавесці, як легальна атрымаць адтэрміноўку або зусім не трапіць у армію.


Кадр з фільма «Жыве Беларусь»

### Навучанне

Кожнаму навучэнцу прафесійна-тэхнічнай установы, а таксама студэнтам дзённай формы сярэдне-спецыяльнай адукацыі і ВНУ (першая ступень, бакалаўрыят) павінны даць адтэрміноўку. То бок, не істотна, колькі разоў і ў якім парадку вы навучаецеся. Галоўнае, каб вас не адлічылі па ініцыятыве навучальнай установы, напрыклад, па прычыне непаспяховасці ці неаплачанага навучання. З магістратурай і аспірантурай крыху працей. Калі паступіць у беларускія ВНУ — як на дзённую, так і на завочную формы — пад прызыў не патрапіш. Але магістрантам завочнай формы, якія навучаюцца за мяжой, давядзецца служыць у войску.

Каб не трапіць у войска, абітурыент, які ў год выпуску з сярэдняй школы не паступіў у ВНУ, можа запісацца на курсы даўніверсітэцкага навучання. У гэтым выпадку ён атрымае на час вучобы і паступлення адтэрміноўку ад прызыву.

Студэнты, якія два гады паспяхова навучаліся на ваеннай кафедры, атрымліваюць званне афіцэра і залічваюцца ў запас. Прызыву яны падлягаюць толькі ў выпадку прыняцця кіраўніком дзяржавы асобнага ўказу, што за апошнія 23 гады здаралася толькі пяць разоў.

### Сямейнае становішча

Не «абуваюць у боты» хлопцаў, якія маюць жонку з цяжарнасцю ці інваліднасцю I або II групы (калі шлюб зарэгістраваны), або бацькоў з двума і болей дзецьмі на ўтрыманні. Прызыву не падлягаюць бацькі з адным дзіцём, якому яшчэ не споўнілася тры гады ці якія гадуюць дзяцей з інваліднасцю або без маці.

Таксама можна атрымаць адтэрміноўкі паводле сямейнага становішча пры адной з наступных умоваў:

- Непрацаздольныя бацькі (якія дасягнулі пенсійнага ўзросту або з'яўляюцца інвалідамі I ці II групы), што не маюць іншых працаздольных дзяцей, якія пражываюць у Беларусі. Калі бацькі разведзеныя і хаця б адзін з іх не знаходзіцца ў законным шлюбе з працаздольнай асобай, гэтую адтэрміноўку можна атрымаць пры непрацаздольнасці аднаго з бацькоў, пры гэтым і адсутнасць іншых працаздольных дзяцей у Беларусі трэба вызначаць менавіта для гэтага з бацькоў (калі ў прызыўніка ёсць зводныя браты ці сёстры).
- Калі ў бацькоў ёсць толькі два сыны і абодвух прызываюць адначасова, адтэрміноўку па заяве бацькоў могуць даць аднаму з сыноў.
- Адзін з бацькоў, які не знаходзіцца ў законным шлюбе і не мае іншых працаздольных дзяцей, але мае адно дзіця да трох гадоў, або двух і болей дзяцей да 18 гадоў, або дзіця-інваліда да 18 гадоў, або поўнагадовае дзіця з інваліднасцю I ці II групы.
- Маці з тэрмінам цяжарнасці 28 тыдняў ці болей, якая не знаходзіцца ў законным шлюбе і не мае іншых працаздольных дзяцей.
- Аднаго і болей родных братоў і сёстраў, якія атрымліваюць агульную сярэднюю, прафесіянальна-тэхнічную ці сярэднюю спецыяльную адукацыю або маюць інваліднасць I ці II групы (пры адсутнасці асоб, якія маглі б узяць іх на ўтрыманне).
- Іншы чалец сям'і, які мае адмысловае заключэнне МРЭК аб неабходнасці пастаяннага староннягa догляду і не знаходзіцца на поўным дзяржаўным забеспячэнні (пры адсутнасці іншых асоб, якія пражываюць у Беларусі і законам абавязаныя клапаціцца пра гэтых членаў сям'і і ўтрымліваць іх).

Пры атрыманні пашпарта для сталага пражывання за мяжой (серыі PP) прызыўніка здымаюць з уліку ў ваенкамаце (пры наяўнасці дазволу камісарыята). Але гэты тып дакумента мае свае недахопы: напрыклад, з ім нельга афіцыйна працаваць і здзяйсняць іншыя дзеянні, якія патрабуюць мець пастаянную рэгістрацыю.

### Здароўе

Калі няма адтэрміноўкі ні па навучанні, ні па сямейных абставінах, то давядзецца ісці ў ваенкамат на медкамісію. Разабрацца ў гэтым пытанні нам дапамог прадстаўнік «Цэнтра правоў прызыўніка» Кірыл Пятрэнка.

Звычайна, у медкамісію ўваходзяць акуліст, ЛОР, стаматолаг, дэрматолаг, неўролаг, хірург-траўматолаг, псіхіятр і тэрапеўт. «Калі лічыць па зваротах на наш сайт, то адносна часта прызнаюць нягоднымі па ўсіх гэтых лекарах — акрамя стаматолага, ЛОРа (калі не лічыць алергіі) і, у меншай ступені, па неўролагу і псіхіятру», — кажа праваабаронца.

Яшчэ да даты медкамісіі прызыўнікам патрэбна прынесці вынікі аналізаў, кардыяграмы і выпіску з амбулаторнай карткі. Чым больш захворванняў будзе ў ёй, тым верагодней атрымаць накіраванне на абследаванне. Поўны спіс захворванняў можна паглядзець на сайце povestka.by. Звычайным прызыўнікам трэба глядзець катэгорыю годнасці па графе I, афіцэрам запасу — па графе III.

Пры праходжанні медкамісіі першым варта ісці да таго лекара, ад каго існуе самая верагодная прычына атрымаць нягоднасць. Лекар у ваенкамаце праводзіць стандартны агляд у сваёй галіне, але не праводзіць абследаванні і не ставіць дыягназы. Трэба абавязкова распавесці гісторыю захворванняў і прад'явіць выпіску з дыягназамі. Калі хвароба з дакумента падыходзіць пад нягоднасць, прызыўніка павінны адправіць на абследаванне. Менавіта там паставяць дыягназ. Напрыклад, калі вы пакутуеце на скаліёз, дык вас спачатку накіруюць у паліклініку на рэнтгенаграфію, а потым у бальніцу. І толькі там паставяць канчатковы дыягназ.

Пры праблеме са зрокам нават пры нізкай міяпіі прызыўніка могуць адправіць на даследаванне, а пасля зрабіць, напрыклад, бясплатную лазерную карэкцыю. Калі накіраванне ад ваенкамата не далі, то яе можна зрабіць і ў прыватным цэнтры. Пры аперацыі на зрок даецца адтэрміноўка як мінімум на паўгода.

Апошнім варта прайсці псіхіятра. Ён можа задаць шэраг пытанняў: ад снагаварэння да сексуальнай арыентацыі.

«Гомасексуальнасць у Беларусі не з'яўляецца хваробай і не перашкаджае служыць у войску. Але, калі прызыўнік у ваенкамаце цвёрда выказвае сваю нязгоду з «правільным» светапоглядам па такіх пытаннях, як жыццёвыя прыярытэты, палітычная сітуацыя ў краіне, псіхіятр можа накіраваць на даследаванне ў стацыянары, каб потым паставіць хлопцу непрызыўны артыкул (як правіла, гэта «разлад асобы»), і пусціць яго гуляць на волю, але з «белым» ваенным білетам. Фактычна ідзе гаворка пра фальсіфікацыю дыягназу», — распавядае Кірыл Пятрэнка.

«Белы білет» — гэта звычайны ваенны білет з запісам аб вызваленні ад вайсковай службы па стане здароўя з указанням нумароў псіхіятрычных артыкулаў. Але такія запісы робяцца ва ўсіх выпадках прызнання нягодным: нават з іншымі артыкуламі ў ваенным білеце могуць быць цяжкасці ў жыцці. На шчасце, заканадаўчых абмежаванняў для ўладальнікаў «белых білетаў» вельмі мала, на практыцы больш адыгрывае ролю неадэкватнае стаўленне асобных службоўцаў пры працаўладкаванні. Але ў такіх выпадках гэта можа быць заснавана нават на банальным «не служыў — не мужык», — тлумачыць праваабаронца.

За трапленне ў міліцыю ды адміністратыўныя спагнанні лекар можа нават накіраваць у псіхіятрычны дыспансер. Лячэнне ў стацыянары дае магчымасць стаць часова нягодным або зусім развітацца з войскам.

Пры праходжанні медкамісіі катэгорыю годнасці выносіць яе кіраўнік: годны да ўсіх відаў войскаў, з абмежаваннямі, часова нягодны, нягодны ў мірны час, нягодны з выключэннем з вайсковага ўліку. Гэта не канчатковае рашэнне, яно павінна быць пацверджана на пасяджэнні прызыўной камісіі, што, звычайна, адбываецца праз месяц. Адпаведна, рашэнне раённай прызыўной камісіі можа быць абскарджана ў вышэйстаячай камісіі ці ў судзе, а рашэнне вышэйстаячай камісіі — толькі ў судзе. Калі прызыўніка прызнаюць нягодным у мірны час, гэта азначае залічэнне ў запас: яму выдаюць ваенны білет, нярэдка з абавязковым медыцынскім аглядам праз тры гады.

### Альтэрнатыўная служба

Калі вы не можаце служыць у арміі па маральных ці рэлігійных прычынах, ёсць альтэрнатыўная грамадзянская служба (АГС). У ліпені 2016-га набыў моц закон «Аб альтэрнатыўнай службе».

Згодна закону, служба ў войску замяняецца на працу ў медычнай, сацыяльнай, жыллёва-камунальнай сферы, сельскай і лясной гаспадарцы, а таксама ў арганізацыях, якія займаюцца добраўпарадкаваннем тэрыторый, будаўніцтвам і рамонтам дарог і чыгуначных шляхоў. Акрамя таго, такія грамадзяне могуць прыцягвацца да ўдзелу ў ліквідацыі наступстваў надзвычайных сітуацый прыроднага і тэхнагеннага характару.

Служыць тады давядзецца ў два разы больш, адпаведна наяўнасці ці адсутнасці вышэйшай адукацыі.

— Значныя абмежаванні закладзеныя ў самім законе — заяву могуць падаць толькі прызыўнікі з рэлігійнымі перакананнямі, якія перашкаджаюць вайсковай службе, таму хлопцы з адпаведнымі палітычнымі ці філасофскімі перакананнямі праходзіць АГС не могуць, — тлумачыць Кірыл Пятрэнка.

— Але на практыцы дадаецца патрабаванне прад'явіць ваенкамату даведку з той рэлігійнай арганізацыі, чальцом якой прызыўнік з'яўляецца. Натуральна, зарэгістраванай. То бок, чальцы незарэгістраваных рэлігійных суполак ці проста прызыўнікі, якія вызнаюць сваю рэлігію індывідуальна, рызыкуюць не атрымаць накіраванне на альтэрнатыўную службу. У апошнім выпадку гэта яшчэ і ўскоснае парушэнне свабоды сумлення.

Пасля ўступлення ў сілу закона і адначасова правядзення ў 2016 годзе восеньскага прызыву, на АГС было накіравана каля 50 чалавек.

Як бачым, калі вы не імкнецца ў войска, ёсць некаторыя легальныя магчымасці не служыць або атрымаць адтэрміноўку. Глядзіш, за гэты час ці парадку ў арміі зробіцца больш, ці наогул армія стане прафесійнай і служыць у ёй будуць толькі тыя, хто сапраўды гэтага прагне.

**Як пазбегчы службы ў войску**

| Пайсці вучыцца | Атрымаць адтэрміноўку па сямейнаму стану ці здароўю | Адправіцца на альтэрнатыўную службу |
|---|---|---|



# Па размеркаванні — у стваральнікі касмічнай тэхнікі

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Фізік-інжынер Міхась Дайняк у дзяцінстве, як і многія іншыя школьнікі, марыў звязаць сваё жыццё з космасам. І стаў адным з тых, чыя мара здзейснілася.**



Праўда, пасля заканчэння пачатковай школы Міхась замяніў сваю мару зацікаўленнем камп'ютарам і тэхнікай. Пасля хлопец захапіўся жаданнем паступаць у Вайсковую Акадэмію. Да адзінаццатага класа Міхась лічыў, што будзе лётчыкам. Але даведаўся, што не праходзіць па стане здароўя. І тады Міхась вырашыў паступаць на фізічны факультэт БДУ.

### «Акадэмка» адкрыла другое дыханне

На першых курсах фізфаку вучыцца Міхасю было нецікава: «Раздзелы ў фізіцы і матэматыцы падаваліся мне сухімі. Я сумняваўся, што фізфак — гэта маё. Мяне цягнула да камп'ютарнай графікі».

На трэцім курсе студэнтам прапанавалі аб'яднацца ў групу, у якой будуць рыхтаваць будучых фізікаў-ядзершчыкаў для працы на АЭС у Астраўцы. «Пра АЭС нам сказалі, што гэта — канкрэтная праца, і што нам будуць плаціць грошы», — кажа Міхась.

Са 150 чалавек на курсе ў групу назбіралася каля трыццаці. Міхась таксама ўвайшоў у яе, а пасля раптам узяў акадэмічны адпачынак. На самай справе, хлопец вырашыў наогул забраць дакументы з універсітэта, але маці яго ўгаварыла ўзяць «акадэмку».

Падчас адпачынку Міхась стаў рыхтавацца да паступлення ў ВНУ Польшчы, каб навучацца майстэрству трохмернай графікі. Хлопцу падавалася, што гэта — менавіта тое, што будзе прыносіць яму задавальненне. Міхась паступіў. Але навучанне было платным. «Я думаў так: адшукаю ў Беларусі спонсара, якому быў бы патрэбны спецыяліст па трохмернай графіцы. Але такога я не знайшоў. А грошай на жытло і ежу ў мяне б не хапіла, таму ад навучання я адмовіўся».

Акадэмічны адпачынак нібыта адкрыў хлопцу другое дыханне: ён вырашыў працягнуць вучобу на фізфаку БДУ: «Сам па сабе фізфак — тэарэтычны факультэт. Ты шмат ведаеш, толькі мала чаго ўмееш. Але тое, чым я зацікавіўся ў апошнія гады вучобы, зараз я выкарыстоўваю на працы».

А зацікавіўся Міхась мадэляваннем, метадам у праграмаванні.

### Размеркаванне ў «Пеленг»

Студэнтам параілі, каб тыя самі паклапаціліся пра будучыя месцы працы. Міхась пачаў шукаць яе за паўгода да размеркавання. Ён шукаў месца, дзе мог бы працаваць інжынерам і якое было б звязана з фізікай.

Знаёмыя параілі ААТ «Пеленг». «Я прыйшоў туды, паразмаўляў. Мяне прынялі на палову стаўкі, а пасля абароны дыплома я стаў працаваць на стаўку», — распавёў Міхась.

Прадпрыемства займаецца распрацоўкай складаных аптычных прыладаў, якія выкарыстоўваюцца ў космасе, крыміналістыцы, на аэрадромах. Міхась займаецца выпрабаваннямі тэхнікі на вібратрываласць.

«Калі прылада гатовая, яе трэба выпрабаваць. Існуе рызыка, што падчас узлёту прылады на арбіту, у першыя восем хвілін яна можа зламацца. Мы ідзем у цэх, дзе стаіць вібрастэнд, апранаем белыя халаты, бахілы (у цэху мусіць быць стэрыльная чысціня), і выпрабоўваем тэхніку на вібратрываласць», — тлумачыць хлопец.

Шмат Міхась працуе і за камп'ютарам: справаздачы, пратаколы, разлікі па выпрабаваннях. Часам у працы яму дапамагае мадэляванне, якім ён стаў цікавіцца падчас вучобы ва ўніверсітэце.

Праца Міхасю падабаецца. Ён падыходзіць да яе творча. Канешне, ёсць і руцінныя моманты, але ён ставіцца да іх як да нечага непазбежнага.

«Калектыў у нас малады, добры, — дзеліцца Міхась. — Шмат людзей працуюць за ідэю, хаця заробкі ў нас таксама добрыя. Калі ты працуеш не толькі дзеля грошай, пачынаеш рабіць намнога больш».

Пра заробак Міхася большасць маладых спецыялістаў могуць толькі марыць. Але хлопец зарабляў столькі не ад самага пачатку свайго размеркавання: зарплата расла з цягам часу. Паколькі Міхась — мінчук, яму не трэба здымаць кватэру, і хлопцу ўдаецца значную частку грошай адкласці. Ён выдаткоўвае сродкі толькі на аплату камунальных паслуг, ежу, паліва і асабістыя патрэбы.

Займацца творчасцю, самаразвівацца, атрымліваць добры заробак, выкарыстоўваць любімае з дзяцінства праграмаванне ў працы... Ці мог Міхась марыць пра гэта ў той час, калі хацеў забіраць дакументы з ВНУ?

Мінус у сваёй працы Міхась вылучыў адзін: «Я не люблю, калі мне даводзіцца мітусіцца. Бывае так, што навальваецца зашмат працы, таму мы застаёмся да позняга вечара. Але, думаю, што гэта не ёсць адхіленнем ад нормы. Хутчэй, звычайная справа. Але гэтую хібу пакрывае малады і крэатыўны калектыў, з якім мне даводзіцца працаваць».

### Мара — альтэрнатыўная энергетыка

Кіраўніцтва прадпрыемства раіць Міхасю паступаць у аспірантуру, каб ён мог займацца навукай.

Малады, беларускамоўны, працавіты і паспяховы — так я ахарактарызавала б Міхася. «Як стаць такім, як ты?» — з усмешкай пытаю яго. Хлопец збянтэжыўся. Але, падумаўшы, сказаў, што варта развіваць у сабе такую якасць, як зацікаўленасць: «Калі табе не цікавая праца, варта імкнуцца знайсці тыя шляхі, якія дапамогуць яе палюбіць. Мне, канешне, шмат у чым пашанцавала. Але вельмі дапамагае, што я люблю тое, чым займаюся».

І нават любімым выпрабаваннем касмічных прылад Міхась не плануе займацца ўсё жыццё. Хлопец хоча з цягам часу перабрацца ў вёску і заняцца або сельскай гаспадаркай, або малым бізнесам. Ён хоча развіваць альтэрнатыўную энергетыку, бо перакананы, што гэты аспект з'яўляецца надзвычай важным у развіцці сельскай гаспадаркі ў Беларусі.

# Віктар Данілаў: «Трэба зрабіць так, каб служыць у войску было крута!»



**Галоўная мэта скаўтынгу — зрабіць з чалавека трывалую асобу, развітую духоўна, разумова і фізічна. Ёсць скаўты-вандроўнікі, скаўты-хрысціяне, скаўты-карацісты і нават скаўты-самотнікі. Выбар ёсць — было б жаданне**



Алесь КІРКЕВІЧ

**У «кінашэдэўры» ад БТ «Белы легіён чорных душаў» адна з галоўных роляў была адведзеная Віктару Данілаву, які апынуўся сярод фігурантаў «справы патрыётаў». Высокі, кароткастрыжаны хлопец з развітай мускулатурай, відаць, падаўся аўтарам «ідэальным баевікам»... Хто ж насамрэч Віктар Данілаў?**

Працягваючы серыю размоваў з фігурантамі «Справы патрыётаў», мы звяртаемся найперш да асабістых гісторыяў і светапогляду, мінаючы палітыку ды абставіны справы. Сённяшні суразмоўца Віктар Данілаў дзеліцца поглядамі на педагогіку, тэатр, падарожжы, а таксама разважае пра варыянты аптымізацыі беларускага войска.

### «Як мяне вылавілі скаўцкім гальштукам...»

Дваццаць гадоў таму Віктар далучыўся да скаўцкага руху, дзе дух ды інтэлект павінны абавязкова спалучацца са здаровым целам — гэта тыя прынцыпы, якія Данілаў нясе праз усё жыццё.

***— Як ты далучыўся да скаўцкага руху?***

— Я трапіў у скаўцкую суполку ў 1997-м, маючы гадоў дзесяць.

***— Як трапіў? Проста злавілі на вуліцы?..***

— Ага, вылавілі скаўцкім гальштукам (смяецца). Дарэчы, у адрозненне ад піянерскага, скаўцкі гальштук можна выкарыстоўваць у побытавых мэтах — прыціснуць рану, наматаць на руку ды ўзяць кацялок і г.д. Піянерскім гальштукам такога рабіць нельга, бо «прыйдзе ў сне Ільіч ды накруціць вушы» (смяецца). Скажу, што не ўсё зразумеў адразу: методыку, мэты скаўтынгу... Для мяне гэта было наўпрост крута! Гойсаць па лесе ў тым узросце, калі па ТБ круцілі фільмы пра Рэмба — гэта неймаверна!

***— Дык а што такое для цябе скаўтынг?***

— Скаўтынг — натуральны шлях развіцця гарманічнай асобы з мэтай выхавання грамадзяніна. Дзякуючы часу, які чалавек праводзіць у камандзе, ён узрастае як асоба, удасканальваецца, атрымлівае карысныя веды і проста цікава бавіць час. Не хочацца паўтараць банальных фразаў пра альтэрнатыву «бадзянню па падваротнях, наркаманіі» — гэта і так зразумела. Наўпрост, скаўтынг — гэта прыгода, а для любога мужчыны прыгода — гэта важна, асабліва ў такім узросце (кар'ера хлопчыка ў скаўтынгу пачынаецца ад 6 гадоў, калі ён можа стаць «ваўчком», дзяўчынка — «вавёркай». — рэд.).

***— Гарманічная асоба — што гэта значыць?***

— Па-першае, гэта дух: перамога над страхамі і комплексамі. Па-другое, фізічнае развіццё, якое патрэбна для паўсядзённага жыцця. Праз фізічныя выпрабаванні — вандроўкі і летнікі — чалавек разумее, што такое палявое жыццё. Мы вырываемся з гораду, дзе добра, калі за дзень зробіш 5 000 крокаў, і занураемся ў лес, дзе нас атачае вялікая, часам, непрыязная прастора, выжываем. Акрамя гэтага ёсць выхаванне асобы праз дапамогу іншым і сумесную працу.



З чаго пачынаецца скаўцкі звяз (3–5 чалавек. — рэд.)? Дзеці збіраюцца і вырашаюць: ім патрэбен вымпел, сцяжок звязу. Яны не могуць узяць на яго грошы ў бацькоў, так не павінна быць, трэба зрабіць самастойна альбо зарабіць грошай і папрасіць зрабіць таго, хто можа. Як? Здаць макулатуру, палоць агароды, мыць машыны, усё, што заўгодна, — але самі. Сэнс у тым, каб дзеці прызвычайваліся да самастойнасці.

***— То бок, гэта элемент сацыялізацыі і квіток у дарослае жыццё?***

— Менавіта. Я бачыў, як дзейнічалі шасцігадовыя хлопцы, якім патрэбен быў сцяжок. На гэта ёсць дзень, што рабіць? Яны ўчацвярых цягалі бабулям у вёсцы 10-літровыя вёдры з вадой. Пілавалі трэскі, якія я паламаў бы рукой, але ім па 6 гадоў — пілуюць, стараюцца!

Пасля, атрымаўшы ад бабуляў капейчыну, яны куплялі ніткі і тканіну, самі шылі, усё атрымлівалася крыва-коса, але — ад душы, па-сапраўднаму! Я бачыў, напрыклад, вельмі прыгожа вышытыя скаўцкія хусткі — гэта творы мастацтва, бо дзеці ўкладаюцца ў гэта. Менавіта таму скаўтынг — гэта шлях да сацыялізацыі і разумення: «Мы можам самі, самастойна, але — разам!»

### «Скаўтынг — гэта стан душы»

***— Зараз псіхолагі канстатуюць, што хлопцы да 25–30 гадоў часцяком застаюцца інфантыльнымі. Магчыма, так ёсць акурат праз недахоп у педагогіцы тых элементаў, на якія робіць упор скаўтынг?***

— Згодны, бо галоўная мэта скаўтынгу — зрабіць з чалавека трывалую асобу, развітую духоўна, разумова і фізічна. Ёсць шмат накірункаў — скаўты-вандроўнікі, скаўты хрысціянскага накірунку, скаўты-карацісты і нават скаўты-самотнікі, не завязаныя з канкрэтнымі арганізацыямі. Кожны можа выбраць. Цікавая рэлігія? Развівайся гэтым шляхам. Цікавыя вандроўкі, прыгоды, скачкі з парашутам — іншы адпаведны накірунак і г.д. Выбар ёсць — было б жаданне. Гэта вельмі цікава, але складана.

***— У чым складанасць?***

— Вельмі цяжка прымусіць сябе ўстаць суботнім ранкам пасля працоўнага ці навучальнага тыдня, узяць заплечнік і пайсці з сябрамі ў складаную вандроўку. Калі ты ведаеш, што ты пройдзеш не 2 кіламетры, каб пасля сесці на крэсла, піць піва і глядзець на возера, а 20 альбо 40 кіламетраў, стомішся, прамокнеш, але ты гэта зробіш. Гэта тое выпрабаванне, якое варта прайсці, каб стаць лепшым.

***— Я так разумею, што скаўтынг прывівае яшчэ і патрыятызм: падчас вандровак ты спазнаеш свой край — не па кніжках, а ў жывую...***

— Безумоўна. Калі пачынаеш вандраваць па Беларусі, ты разумееш, колькі ў нас усяго цікавага! Палацы, замкі, цэрквы-крэпасці, пушчы, азёры, фантастычныя краявіды... Скаўт заўсёды з'яўляецца патрыётам, пры гэтым усе скаўты браты.

***— Нават з розных звязаў і арганізацыяў?***

— Нават з розных краінаў. Я ведаю, што калі прыеду да сваіх сяброў-скаўтаў у Польшчу, то мяне пусцяць пераночыць, накормяць. Адпаведна, калі яны прыедуць, я іх сустрэну. У нас адзін шлях, вектар на сяброўства, без градацыі па колеру скуры, нацыянальнасці і г.д. — важныя толькі твае ўнутраныя якасці.

***— Да якога ўзросту ты займаўся скаўтынгам?***

— Скаўтынг — гэта стан душы, скаўтам можна быць на працягу ўсяго жыцця. Апошнія 10 гадоў я па магчымасці дапамагаў маладым людзям зразумець сэнс і накірунак скаўтынгу, раіў, да каго звярнуцца, каб з карысцю бавіць час, бо, як я казаў, гэта цудоўнае хобі і адпачынак.

### «Выбіраеш маршрут паскладаней і ідзеш...»

***— Са скаўтынгам выдатна спалучаецца тваё захапленне турызмам?***

— Так, з той агаворкай, што ад сур'ёзных вандровак пакуль давялося адмовіцца, бо ўвесь рыштунак канфіскавалі ў рамках справы... Спадзяюся, гэта часова, усё вернуць. Для мяне турызм — гэта адпачынак, хоць і цяжкі адпачынак: часам, цяжэйшы за працу (смяецца). Выбіраеш маршрут паскладаней і ідзеш. Пасля такога адпачынку вяртаешся, а ў цябе ногі ў мазалях. Пры гэтым, унутрана ты адпачыў.

***— Вандраваць лепш аднаму альбо ў добрай кампаніі?***

— Заўжды можна знайсці такіх жа апантаных людзей ды ісці разам. Шмат з кім, хто

праходзіць зараз па «Справе патрыётаў», я пасябраваў акурат на глебе турызму. Разам хадзілі ў падарожжы, сплаўляліся па рэчках, падымаліся ў горы, займаліся дайвінгам і г.д. Калі казаць пра дайвінг, то для мяне было сапраўдным адкрыццём дыханне ў апараце — аказваецца, так можна!

Ёсць шмат клубаў, дзе ўсё пакажуць, навучаць, і гэта будзе значна цікавей, чым сядзець дома і клацаць па клавіятуры кампутара. Такіх уражанняў няма ў інтэрнэце: можна тысячы разоў праглядаць фільмы альбо запісы з камераў GoPro, як нехта караскаецца на скалу, але пакуль сам не паспрабуеш, то і не адчуеш. Калі вісіш на скале, а пад табой 15 метраў, а ўнізе вострыя ўломкі той самай скалы — гэта ваў! Ты залез, ты гэта здолеў.

## На сцэне быў Гарацыё ды... далакопам

*— Сярод тваіх захапленняў яшчэ і тэатр: як так сталася?*

— Тэатр палюбіў дзякуючы Таццяне Алегаўне Шылавай, выкладчыцы нашай гімназіі, якая стварыла яшчэ ў 1990 годзе тэатр-студыю «Клас А!», дзе я выконваў некаторыя ролі: не скажу, што паспяхова — мне проста было цікава... Калі кажуць, галоўным з мастацтваў для нас з'яўляецца кіно — гэта хлусня. Тэатр!

*— Чаму тэатр?*

— Бо ў тэатры няма другога дублю. Ёсць канкрэтны момант — і вы яго пражываеце. Усё адбываецца тут і зараз ды не паўторыцца з дакладнасцю ніколі зноў: кожная пастанова — гэта асобная гісторыя, асобнае перажыванне.

*— Якія ролі ты выконваў, у якіх пастановах граў?*

— Мая ўлюбёная п'еса — «Гамлет на чвэрць гадзіны», твор Тома Стопарда. Справа ў тым, што Шэкспір вельмі шматслойны, яго можна інтэрпрэтаваць безліч разоў. Але сучаснаму чалавеку вельмі цяжка глядзець «Гамлета», які доўжыцца 4–6 гадзін — традыцыйную пастаноўку. Трэба быць моцна падкаваным у гісторыі і культуры. А Стопард вырашыў, што можна выкінуць усё другаснае і пакінуць асноўны «мэсэдж». І мы з Таццянай Алегаўнай паставілі гэты твор.

Там у мяне было некалькі другасных роляў, галоўныя ніколі не давяралі (смяецца). Роля капітана карабля, на якім Гамлета вывозяць, там словаў не было. Роля далакопа: «Хто будуе крапчэй за муляра ці плотніка? Далакоп, бо яговыя дамы прастаяць да другога прышэсця!» Таксама роля Гарацыё і... яшчэ нешта. Усім раю пачытаць гэтую п'есу.

*— А зараз ходзіш у тэатр?*

— Канешне. Для мяне ў мінулым годзе было адкрыццём, калі паехаў у Вільню, убачыць «Ганну Карэніну» ў пастаноўцы Літоўскага драматычнага тэатру ад рэжысёра Анжэлікі Холінай. Гэта пластычны спектакль. У Беларусі ёсць агромністая колькасць таленавітых актораў і рэжысёраў, але пасля «Карэнінай» я зразумеў, што ў нас так пакуль не могуць. У Холінай ёсць некалькі цудоўных пастановаў. Усім раю, бо гэта космас! Я не ведаю, як апісаць.

З беларускіх, канешне, наш цудоўны Купалаўскі тэатр. З захапленнем стаўлюся да Віктара Сяргеевіча Манаева — найталенавіцейшы актор: няма пастаноўкі за апошнія 35 гадоў у Купалаўскім, дзе б ён ні выконваў ролі («Пінская шляхта», «Гаральд і Мод», «Жаўнеры» Дударава, «Касцюмер» і інш.). Ёсць шэраг маладых цудоўных актораў: Харланчук і Падаляка, спадарыня Хітрык.

## «Веды скаўта мае не кожны дэсантнік»

*— Пакінем культуру трошку ўбаку. Ты адслужыў у войску тэрміновую службу?*

— Не, я рэзервіст. Ёсць такая форма ва Узброеных Сілах, калі пасля атрымання вышэйшай адукацыі праходзіш абавязковыя вайсковыя зборы, цягам якіх аваладаеш вайсковай спецыяльнасцю. Звычайна — паўгода прыкладна.

*— Пасля жыццёвай школы скаўтынгу было прасцей?*

— Падаецца, што так. Скаўтынг вучыць, што мы ўсе, нягледзячы на характары і асабістыя хібы, аб'яднаныя адной мэтай. Таму, калі я трапіў у войска, то зразумеў, што мы жывем у калектыве, трэба паважаць адзін аднаго, пазбягаць канфліктаў і г.д. Бо калі пад адным дахам спяць 120 чалавек — натуральна, канфлікты будуць. Але трэба неяк суіснаваць з мэтай выканаць свае абавязкі — навучыцца быць вайскоўцам.

Калі вы трапіце ў войска пасля скаўтынгу, будзе адназначна прасцей. Тым больш, калі трапіце не ва ўмоўныя мотастралкі, але апынаецеся ў сілах спецыяльных аперацый або выведвальным падраздзяленні. Бо тыя веды, якія атрымаў сярэднестатыстычны скаўт, маюць, на жаль, не ўсе жаўнеры, што служылі ў дэсанце. А скаўт спакойна пратрымаецца 10 дзён у любым лесе.

*— Чуў, што з войска ты маеш нейкія граматы, падзякі...*

— На жаль, я не здолеў трымацца ў войску падалей ад начальства, і мяне прызначылі намеснікам камандзіра звязу. Так, атрымаў там нейкія падзякі за нясенне службы... Тут няма нічога звышнатуральнага: трэба наўпрост якасна рабіць сваю працу на любой пасадзе — усё. Я лічу, што гэтыя граматы былі цалкам лішнімі, гэта нават смешна. Якая можа быць грамата чалавеку, які праслужыў паўгода? За што?..

Часам на вуліцы насустрач ідуць сувораўцы — з медалямі. І для мяне гэта ненатуральна. Гэта паніжэнне вартасці медаля як такога, таксама і з граматамі. Жаўнер павінен рабіць сваю справу, не чакаючы на падзякі. Калі ён, рызыкуючы жыццём, залез на дах і выратаваў котку — яму можна даць грамату, калі чалавека — медаль. Я ж не рабіў гэтага.

## «Войска патрэбнае, нават калі краіна не ваюе»

*— Ты даслужыўся да прапаршчыка, дык чаму вырашыў не рабіць вайсковай кар'еры, калі такога кшталту рэчы цікавыя і блізкія?*

— У мяне вельмі спецыфічная вайсковая спецыяльнасць: начальнік склада, а зусім не камандзір выведвальнай групы (смяецца). З такой спецыяльнасцю ўсё жыццё прасядзець на складзе — не цікава. Я ўяўляю сабе службу крыху па-іншаму. З пэўных прычынаў мяне не ўзялі ў ПДВ, таму...

Я лічу, што ў беларускім войску трэба служыць, яго трэба развіваць, але і само войска павінна развівацца. Мы ж дагэтуль стаім на месцы: шмат кансерватыўных момантаў, якія псуюць агульнае ўражанне. Разумею, што найперш гэта звязана з матэрыяльна-тэхнічным забеспячэннем арміі — на жаль, пакуль, так.

Але войска незалежнай Беларусі павінна быць моцным і баяздольным, каб пры любой нагодзе абараніць краіну. Таму жаўнеры і павінны займацца падвышэннем сваёй баяздольнасці, а не ўкладаць снег кубікамі. Лепш гэты час прысвяціць тым рэчам, на якіх спецыялізуецца падраздзяленне.

*— У Беларусі ёсць два палярныя меркаванні пра войска. Першае: войска ў нас цудоўнае, усе нас баяцца і г.д. Другое: войска нам не патрэбнае, яно русіфікаванае — давайце яго распусцім... Што думаеш?*

— Прывяду гістарычны прыклад. Швейцарскае войска падчас дзвюх сусветных войнаў выратавала краіну ад акупацыі, хоць у баявых дзеяннях не ўдзельнічала. Падчас Першай сусветнай вайны дарадцы пераканалі кайзера Вільгельма не лезці ў Швейцарыю, падчас Другой сусветнай — аналагічная сітуацыя была з Гітлерам: вайна і акупацыя маглі адцягнуць занадта шмат сілаў. Гэта таго б не каштавала.

Пры гэтым, падчас Другой сусветнай вайны швейцарскія самалёты-знішчальнікі саджалі нямецкія самалёты, якія перасякалі паветраную мяжу, маўляў, хлопцы, вы заляцелі не туды, сядаем. Швейцарцы бралі ў палон і інтэрнавалі ўсіх, каго лавілі на тэрыторыі краіны: немцаў, амерыканцаў, брытанцаў — усе яны траплялі ў лагеры для інтэрнаваных і сядзелі там да канца вайны.

Таму, войска патрэбнае, нават калі краіна не ваюе. Калі вы не хочаце вайны, трэба быць да яе падрыхтаванымі: само гэта можа спрацаваць як стрымліваючы фактар. Для мяне гэта цалкам натуральна.

## Чаму ад жаўнера хаваюць аўтамат?..

*— Дык а што наконт беларускага войска: кажуць жа, што там багата непатрэбшчыны...*

— Фармальна, усё пабудавана вельмі слушна, іншая справа — як гэта выконваецца. Што, не трэба ПХД (паркава-гаспадарчы дзень. — рэд.)? Трэба. Абслугоўванне тэхнікі не трэба? Трэба. Шыхтавая падрыхтоўка не трэба? Канешне, трэба, бо яна вучыць не столькі прыгожа хадзіць шыхтом, колькі выконваць загады — любыя, гэта псіхалагічны момант. Пры гэтым, вельмі часта, на жаль, у вайскоўцаў няма матывацыі служыць, і служыць якасна.

*— А якая можа быць матывацыя?*

— Трэба зрабіць так, каб служыць у войску было крута, прабачце за пафас. Напрыклад, прыходзіць чалавек у Цахаль (войска Ізраіля. — рэд.), яму даюць форму і аўтамат. А ў нас што? У нас ад жаўнера аўтамат хаваюць у аружэйцы: «Ці мала што? А раптам згубіць?..» Трэба даваць разуменне, каб чалавек ведаў, што ідзе ў войска, каб вучыцца чамусьці новаму. Прыйшоў ён на пасаду стралка СПГ-9 — ён павінен навучыцца і ведаць, што гэта, пры гэтым быць накормлены і добра выглядаць.

Добра, што пайшлі хоць мінімальныя зрухі ў плане знешняга выгляду. Бо раней, уявіце, вы апранаеце бушлат, які на вас вісіць мехам. Кім сябе адчувае жаўнер? Правільна, няўдачнікам, якому не ўдалося «адкасіць»... Але калі я бачу спецпадраздзяленні, то там ужо зусім іншае: яны нават апрануты крута! Працуюць таксама стэрэатыпы, напрыклад, пра дзедаўшчыну. Так, у войску б'юць. Але, каб цябе пабілі, трэба ці не мыцца месяц ці напіцца — тады да цябе ўначы прыйдуць саслужыўцы і параяць больш так не рабіць.

Каб у свае 18 гадоў я ведаў, што калі пайду ў войска, то буду там страляць з-пад рукі, навучуся кіраваць БТР і БМД, падкачаюся, буду хадзіць у крутой прыгожай форме, скакаць з парашутам, я б не пайшоў ва ўніверсітэт — пайшоў бы адразу ў войска. А так у нас думаюць пасля школьных экзаменаў, як бы толькі не «загрэблі» на паўтара гады — моладзь баіцца гэтага амаль як турмы.

## «Войска жыве на маршы»

*— А што наконт тэрміну службы?*

— Каб вы ведалі, тэрмін КМБ (Курс маладога байца. — рэд.) у войску Швейцарыі — 21 тыдзень, а далей штогадовы прызыў на зборы. Калі правільна паставіць навучальны працэс, умоўнага Рэмба можна зрабіць за паўгода, але трэба працаваць, а не бардзюры фарбаваць. Жыць на палігонах, вучыцца — і будзе баец! Пасля яшчэ прызываць некалькі разоў за жыццё, каб абнавіць веды, у «партызанку», як кажуць у народзе.

Але зараз тая ж «партызанка» выглядае не вельмі ўцямна: людзі туды ідуць, каб 45 дзён піць... Я разумею чаму. Чалавек, напрыклад, механік-вадзіцель БТР па вайсковай спецыяльнасці, але яму кажуць: «Сядзі, не лезь нікуды!» Таму і п'е. Трэба да тэхнікі падпускаць, займаць нечым карысным, бо жаўнер не пры справе — гэта патэнцыйны злачынца (смяецца). Войска, як вядома, жыве на маршы.

*— Што б ты сказаў людзям, якія крытычна ставяцца да ўзброеных сілаў?*

— Так, наша войска мае багата хібаў, шмат што трэба змяняць, але мне не падабаецца, калі ўсіх вайскоўцаў агулам мажуць чорнай фарбай — гэта шлях у нікуды. Пасля гэтага называць сябе патрыётамі і незалежнікамі... несур'ёзна. Войску як паветра патрэбныя рэформы, але варта захаваць лепшае, у тым ліку, пакінуць прафесійныя кадры, якія маюць досвед, незалежна ад мовы, на якой яны гавораць у штодзённым жыцці, ці празвішча.

Мне падаецца, гэта і ёсць патрыятычны падыход — не раскідвацца людзьмі і магчымасцямі, але збіраць і пакідаць лепшае: што ў войску, што ў любой іншай сферы. Не будзе моцнага войска — не будзе незалежнасці, не будзе Беларусі — пра гэта заўжды варта памятаць.

**У беларускім войску трэба служыць, яго трэба развіваць, але і само войска павінна развівацца. Войска незалежнай Беларусі павінна быць моцным і баяздольным, каб пры любой нагодзе абараніць краіну. Жаўнеры павінны займацца падвышэннем сваёй баяздольнасці, а не ўкладаць снег кубікамі**



Падчас горнага паходу

**Фота аўтара і з асабістага архіву Віктара Данілава**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МЕКСІКА. У чаканні сепаратызму

Дзякуючы падзеям у Каталоніі тэма сепаратызму нечакана паўстала ў Мексіцы. Назіраючы за навінамі з Барселоны, мексіканцы ўзгадалі, што і ў іх ёсць нешта падобнае, а дакладней — ініцыятыва за стварэнне на поўначы краіны асобнай дзяржавы — Альбукерыкі. Ініцыятыва паўстала яшчэ ў 2005 годзе, аднак не карысталася вялікай падтрымкай, пакуль не выбухнула Каталонія. Сёння тэма Альбукерыкі ў топе навінаў. Усё таму, што ідэю ў інтэрнэце «лайкнула» больш за 30 мільёнаў мексіканцаў. Палітолагі лічаць, што нічога дзіўнага тут няма. Больш развітыя штаты поўначы Мексікі даўно з'яўляюцца донарамі больш бедных рэгіёнаў поўдня і цэнтру краіны. Аднак самае цікавае, што аўтары Альбукерыкі бачаць адміністратыўнымі суб'ектамі краіны таксама тыя штаты, якія перайшлі ад Мексікі да ЗША ў выніку вайны 1846–1848 гадоў. Некаторыя лічаць, што ў гэтым кантэксце Альбукерыка ўяўляе пагрозу для ЗША. У Тэхасе і Каліфорніі вельмі шмат выхадцаў з Мексікі. Перспектыва стаць грамадзянінам дастаткова заможнай Альбукерыкі, а не беднай Мексікі, гучыць досыць прывабна.

**Паводле мексіканскай прэсы**

### КІТАЙ. Паляванне на кілімы

Арыгінальныя формы набыла кампанія, накіраваная супраць «нелегальнай» рэлігійнай дзейнасці, якую кітайскія ўлады праводзяць у Сіньцзян-Уйгурскім аўтаномным раёне, дзе жыве шмат уйгураў-мусульман. У цэнтры кампаніі знаходзіцца паляванне за... кілімамі. Справа ў тым, што для малітвы верніку-мусульманіну патрэбны так званы малітоўны кілім. Менавіта іх масава канфіскуюць у мясцовых жыхароў. Праўда, даператрусаў пакуль справа не даходзіць. Як правіла, прадстаўнікоў уйгурскай абшчыны выклікаюць на сходы, дзе патрабуюць здаваць культавыя прадметы, якія маюць дачыненне да ісламу. Той, хто адмаўляецца, можа трапіць у лагер для «перавыхавання». Таму жыхары моцна не пратэстуюць. За час кампаніі (яна цягнецца каля паўгода) было канфіскавана 5–6 тысяч малітоўных кілімаў.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Ліквідацыя ГДР была памылкай?

Цяперашнюю гадавіну аб'яднання Германіі адзначаюць на фоне незвычайных дэбатаў пра тое, што знішчэнне ГДР было памылкай. Прычым ініцыятарамі дыскусіі з'яўляюцца не былыя камуністы-апаратчыкі, а лідары думкі Заходняй Германіі. Імпульсам для спекуляцый сталі апошнія парламенцкія выбары, па выніках якіх у Бундэстаг трыумфальна прарвалася правапапулісцкая «Альтэрнатыва для Германіі». Гледзячы па электаральнай мапе, больш за ўсё за «Альтэрнатыву для Германіі» галасавалі на ўсходзе. Гэта і стала базай для правакацыйнай тэзы пра тое, што ўсходніх немцаў так і не ўдалося інтэграваць у дэмакратычнае грамадства. У якасці прычыны называюць таксама палітыку дзяржавы, якая ўзяла тэрыторыі былой ГДР на эканамічны буксір. Такім чынам, маўляў, ва ўсходніх немцаў захавалася і яшчэ больш замацавалася спажывецкае стаўленне да дзяржаўных органаў. Так ці інакш, гучыць крамольная думка, што ўключэнне ГДР у склад ФРГ было памылкай. Як піша прэса, трэба было спачатку як мінімум вывучыць менталітэт усходніх немцаў. Выпраўляць памылку прапануецца за кошт скарачэння фінансавай падтрымкі земляў, якія галасуюць за экстрэмістаў. Магчыма, гэта прымусіць жыхароў Усходу пераглядзець стаўленне да дэмакратыі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. На парозе выключэння з ЕС?

Прынамсі, так сцвярджае ліберальная польская прэса. На яе думку, гэтым закончыцца скандал, які выбухнуў днямі. У яго эпіцэнтры — інфармацыя пра тое, што міністэрства развіцця ўручыла дзяржаўную прэмію медыкам цэнтру, які займаецца пошукам лекаў... ад гомасексуалізму. Той цэнтр знаходзіцца ў Любліне і намагаецца развіць напрацоўкі амерыканца Рычарда Коэна. Коэн таксама быў гомасексуалам, аднак пасля, быццам, стаў стопрацэнтным гетэрасексуалам дзякуючы тэрапіі, якую сам прыдумаў. Тэрапія Коэна — вельмі супярэчлівая тэма. Інакш бы яго не выключылі з карпарацыі псіхіятраў ЗША за парушэнне этыкі. Не прызнае яго метад і польская аналагічная арганізацыя. Там лічаць, што метад Коэна здольны выклікаць парушэнне псіхікі ў пацыентаў. Тым не менш, яго паслядоўнікі ў Польшчы спакойна дзейнічаюць пад дахам адной каталіцкай арганізацыі. Тыя, хто наведваў курсы тэрапіі, кажуць, што гэта нагадвае сеансы споведзі пра інтымныя падрабязнасці жыцця. У выніку кіраўнік групы вельмі добра вывучае асобу і намагаецца карэктаваць яе паводзіны. Паколькі дасюль не вядомы ніводны паляк, які б «вылечыўся ад гомасексуалізму», можна казаць пра шарлатанства. Аднак афіцыйная падтрымка такой практыкі з боку дзяржавы наўрад ці спадабаецца Еўропе.

**Паводле польскай прэсы**



Фота www.trbimg.com

# Канец «вострава свабоды»?

*Алег НОВІКАЎ*

**Прэзідэнцкія выбары ў Кыргызстане, прызначаныя на гэты ўік-энд, надалі новы імпульс дэбатам — чаму ў гэтай цэнтральна-азіяцкай краіне, у адрозненне ад іншых краін СНД, захавалася дэмакратыя?**

«Востраў свабоды» — такое метафарычнае вызначэнне замацавалася за Кыргызстанам у прэсе. Тытул не штучны. Кыргызстан — рэдкае выключэнне ў СНД. Тут свабодна працуе няўрадавы сектар і прэса. А на пасаду прэзідэнта прэтэндуюць кандыдаты ад больш чым 15-ці партый. Пры гэтым нікому ў галаву не прыйдзе тое, што папярэдні прэзідэнт адмовіцца прызнаваць вынікі выбараў і пакідаць пасаду.

Адкуль у кіргізаў такі ген свабоды, асабліва з улікам таго, што краіна вельмі бедная? Наконт гэтага існуе цэлы спектр тэорый, у тым ліку вельмі экстравагантных. Напрыклад, папулярная, паводле якой дэмакратыю ўдалося захаваць праз адсутнасць агульнай мяжы з Расіяй, якая падтрымлівае па контуры сваіх межаў аўтакратычныя рухі. Не менш арыгінальная думка пра тое, што сучасная ідэнтычнасць кіргізаў будавалася на фоне інтэнсіўнага паўстання аўтарытарных рэжымаў ва ўсіх краінах-суседках. Таму, каб адрознівацца ад суседзяў, кіргізы, маўляў, пачалі дэманстратыўна падтрымліваць дэмакратычныя свабоды.

А вось ветэран дэмакратычнага руху, былая прэзідэнтка краіны Роза Атунбаева лічыць, што ўся справа ў традыцыях кіргізаў. «Я думаю, што дэмакратыя ў нас у крыві, у нашым ладзе жыцця. Мы — нацыя з духам качэўнікаў, адкрытая, дынамічная, рухомая. Мы не трымаемся за нажытае, мы лёгкія на ўздым. У тым, як мы бачым свет, — усё павінна быць роўна і справядліва, з улікам усіх меркаванняў», — кажа Атунбаева.

Вельмі цікавую разгадку з'явы прапанаваў кіргізскі палітолаг Тамерлан Ібраімаў. «У сучасным Кыргызстане няма альтэрнатывы дэмакратыі. Як толькі ў тут з'яўляюцца першыя прыкметы аўтарытарызму, адразу становішча відавочным, што нашы «тыраны» настолькі прымітыўныя і схільныя да таго, каб нешта скрасці, што нават маючы значныя ўладныя паўнамоцтвы, яны будуць не ў стане распарадзіцца імі на карысць грамадства», — піша Ібраімаў.

Аднак найбольш запатрабаванай з'яўляецца версія пра этнапалітычны фактар. Кіргізы як нацыя ўяўляюць сабой кангламерат 40 плямёнаў (без уліку вялікай узбекскай грамады). Ва ўмовах моцнай кланавай і этнічнай фрагментацыі ні ў аднаго палітычнага актора ў краіне няма такіх рэсурсаў, якія б дазвалялі яму навязваць сваю волю іншым.

**Для лёсу кіргізскай дэмакратыі значна больш важныя наступствы моды на іслам. За 25 гадоў у краіне вырасла генерацыя маладых людзей, якія варожа ставяцца да заходняй культуры і дэмакратыі**

Як бачым, крыніцы кіргізскага дэмакратычнага нонсенсу мала хто бачыць у высокай грамадзянскай свядомасці жыхароў. Хутчэй, кіргізская дэмакратыя — следства сітуатыўнай камбінацыі шэрагу фактараў, якія не статычныя. Адсюль і шматлікія публікацыі, аўтары якіх лічаць, што кіргізскі «востраў свабоды» вырачаны.

Пры гэтым яны спасылаюцца на ўсе больш нізкія пазіцыі краіны ў шматлікіх рэйтынгах вымярэння дэмакратычных стандартаў. І на тое, што яшчэ ў часы Бакіева пачалі казаць: кіргізамі пройдзеная «стадыя механічнага капіявання і пераймання заходніх палітычных сістэмаў». Пра эрозію веры ў дэмакратыю сведчыць і папулярны мясцовы анекдот: «Чаму дарослыя не вераць у Дзеда Мароза? Таму што яны вераць у дэмакратыю».

Ці будуць цяперашнія выбары прэзідэнта фатальнымі для траекторыі кіргізскай дэмакратыі? Пра гэта НЧ распавядае бішкекскі праваабаронца **Сяргей Сарыеў**:

— Выбары дасюль захоўваюць інтрыгу. Ніколькі раней замежныя гульцы так дэманстратыўна не гулялі на ўнутраным палітычным рынку. Менавіта таму апошнім часам абвастрыліся адносіны з Казахстанам. На думку афіцыйнага Бішкеку, Астана (і ўскосна Масква) адкрыта лабіруе свайго кандыдата Амурбека Бабанава, які, паводле розных апытанняў, апярэджвае Жээнбекава — стаўленіка ўлады, за якім стаіць Захад і краіны Персідскай затокі. Справа нават дайшла да ўзаемных выпадаў на ўзроўні МЗС і плётак пра магчымую казахска-кіргізскую вайну. Усё ідзе да другога туру, дзе сустрэнуцца тыя ж Бабанаў і Жээнбекаў. У гэтым выпадку ўладай будзе мабілізаваны ўвесь адміністратыўны рэсурс, а апазіцыя, у сваю чаргу, пачне гуляць на раскол праўладнага лагеру, які вельмі стракаты.

Аднак для лёсу кіргізскай дэмакратыі значна больш важныя наступствы моды на іслам. За 25 гадоў у краіне вырасла генерацыя маладых людзей, якія варожа ставяцца да заходняй культуры і дэмакратыі. Калі ісламісты паспрабуюць стварыць сваю палітычную платформу, дэмакратычны эксперымент будзе пад пытаннем. Прычым, ініцыятарамі стварэння ў Кіргізіі аўтакратычнага рэжыму могуць выступіць заходнія дэмакратыі. Як адкрыта піша тая ж нямецкая прэса, бяспека і стабільнасць у краіне і рэгіёне ва ўмовах цяперашняй палітычнай кан'юнктуры ўяўляюць значна больш важныя чыннікі, чым пытанні непрадказальнай дэмакратыі ў Кыргызстане.

# Слова за «бальшавікамі»

Алег НОВІКАЎ

**Пасля канфузу з абвяшчэннем незалежнасці Каталоніі паўстала сітуацыя, чымсьці падобная на тую, што была ў Расіі перад кастрычніцкай рэвалюцыяй.**



Фота www.vistanews.ru

Малавядомы факт — аднойчы Каталонія ўжо была незалежнай. Здарылася гэта ў кастрычніку 1934 года, калі ў Мадрыдзе выбухнуў палітычны крызіс. Луіс Кампаніс Хавер, тагачасны кіраўнік Generalitat (ураду каталонскай аўтаноміі), вырашыў, што больш аптымальнага часу для абвяшчэння суверэнітэту не будзе. Тут жа натоўпу, які сабраўся каля будынку Generalitat, была зачытана хуценька напісаная дэкларацыя пра стварэнне Каталонскай дзяржавы. Аднак пратрымалася абвешчанае дзяржаўнае фармаванне толькі каля 10 гадзінаў. Мясцовы гарнізон, які застаўся верны Мадрыду, лёгка разагнаў незалежнікаў.

Антырэкорд па часе існавання незалежнай Каталоніі быў пабіты 10 кастрычніка гэтага года, калі незалежнасць цягнулася толькі адну хвіліну (!). Менавіта столькі, паводле хронаметражу, склала паўза паміж словамі кіраўніка ўраду Каталоніі Карлеса Пучдэмона аб абвяшчэнні незалежнасці і фразай пра тое, што тая незалежнасць часова адкладаецца.

Канчаткова не вядома, чаму лідары Каталоніі ў апошні момант адмовіліся ад абвяшчэння незалежнасці. Магчыма, яны спалохаліся інфармацыі агенцтва Bloomberg, якое прыкладна за пару гадзін да выступу Пучдэмона падзялілася інсайдарскай інфармацыяй: быццам бы, іспанскія сілавікі рыхтаваліся арыштаваць Пучдэмона ў выпадку, калі той усё ж наважыцца абвясціць суверэнітэт. Іншыя кажуць, што кіраўнік Каталоніі паддаўся ціску акул мясцовага бізнесу, якія занепакоены адтокам капіталу з рэгіёну — як следства росту палітычнай турбулентнасці.

Так ці інакш, наступствам гэтага канфузу стала глыбокае расчараванне каталонцаў, якія, падаецца, сапраўды паверылі, што незалежнасць — не міраж. Не дзіўна, што на выхадзе з парламента натоўп сустракаў Пучдэмона свістам і агіднымі рэплікамі. Сам Рух за незалежнасць Каталоніі аказаўся моцна дыскрэдытаваным.

Адзіная структура, якая больш-менш захавала твар у гэтай гісторыі — невялікая лев248радыкальная партыя «Кандыдатура народнага адзінства» (CUP), якая таксама ўваходзіць у склад кааліцыі незалежнікаў. Або, дакладней сказаць, уваходзіла. CUP абвясціла пра выхад з кааліцыі, калі кіраўнік ураду не выканае яе ўльтыматум — на працягу месяца запусціць механізм, прапісаны ў дэкларацыі пра незалежнасць.

Вонкава склалася сітуацыя, чымсьці падобная на тое, што было ў 2015 годзе. Тады электарат старых нацыяналістычных партый расчараваўся ў былых кумірах, якія напярэдадні выбараў абяцалі незалежнасць, каб пасля бясконца адтэрміноўваць «час Х». З'явіўся запыт на новыя твары, чым і скарысталася CUP, якая мае імідж партыі маладых: візітоўкай партыі з'яўляецца настаўніца і феміністка Анна Габрыэль, якая нарадзілася ў 1975 годзе. І нечакана партыя, якая раней працавала толькі на муніцыпальным узроўні, трапіла ў каталонскі парламент.

Каб атрымаць неабходную дэпутацкую квоту пад урад, старыя нацыяналісты вымушаныя гандлявацца з дэпутатамі ад CUP. Апошнія, у сваю чаргу, высунулі катэгарычнае патрабаванне — прыняць закон аб рэферэндуме пра незалежнасць, які мае характар прамога закону. Закон быў прыняты, што і запусціла працэс арганізацыі і правядзення плебісцыту 1 кастрычніка.

Можна прагназаваць, што ў атмасферы расчаравання старымі нацыяналістамі CUP павялічыць сваю палітычную вагу. Аднак ёсць адзін нюанс, які тычыцца ідэалагічнага профілю партыі. Не толькі ў Іспаніі, нават у Еўропе, цяжка знайсці структуру з такой бескампраміснай і радыкальнай праграмай.

Паводле праграмы, «Кандыдатура народнага адзінства» выступае за Каталонію, эканоміка якой будуецца на сацыялістычных прынцыпах. Усе фінансавыя ўстановы ў новай краіне павінны быць нацыяналізаваныя. Будучая незалежная Каталонія бачыцца сябрам CUP па-за межамі NATO. Цікава, што CUP пры гэтым лічыць, што ў склад Каталоніі павінны ўвайсці некаторыя рэгіёны, якія сёння належаць Іспаніі, Францыі і Італіі.

Вельмі дэмакратычны статут CUP, дзе ўсе рашэнні прымаюцца празрыста ў рамках асамблеяў, дазваляе партыйнаму базісу ўвесь час ціснуць на кіраўніцтва, кантраляваць учынкі апаратчыкаў. А паколькі CUP намагаецца выказваць настроі беспрацоўнай моладзі, якой няма чаго губляць, радыкальныя словы і радыкальныя ўчынкі не разыходзяцца.

За кошт такой ідэалогіі партыя атрымала ў прэсе мянушку «апошнія бальшавікі Еўропы».

Расправа паліцэйскіх над мірнымі грамадзянамі падчас галасавання 1 кастрычніка вельмі радыкалізавала каталонскую грамадскасць, якая ўсё часцей бачыць у CUP адзінага паслядоўнага змагара за незалежнасць. У сувязі з гэтым іспанская прэса іранізуе: маўляў, мы назіраем сітуацыю, падобную на тую, што была ў Расіі сто гадоў таму. Тады дэмакратычныя партыі накшталт эсэраў або сацыял-дэмакратаў актыўна разбуралі інстытуты царскай Расіі, не ведаючы, што ствараюць глебу для трыумфальнага выхаду на арэну бальшавікоў, якія бачылі ўсю дэмакратыю ў труне.

**Іспанская прэса іранізуе: мы назіраем сітуацыю, падобную на тую, што была ў Расіі сто гадоў таму. Тады дэмакратычныя партыі разбуралі інстытуты царскай Расіі, не ведаючы, што ствараюць глебу для выхаду на арэну бальшавікоў, якія бачылі ўсю дэмакратыю ў труне**

Цяжка сказаць, наколькі такія ацэнкі і прагнозы справядлівыя. Усё ж сённяшняя Каталонія — яўна не Расія 1917-га. Аднак відавочна, што CUP цяпер — вядучая нацыяналістычная палітсіла, якую нельга купіць ніякімі падачкамі і якая збіраецца ісці да канца. «Мы вырашылі не адступаць. Свабода патрэбная нам сёння, тут і цяпер, яе абарона — гэта элементарнае пытанне чалавечай годнасці. Мы больш не можам цярпець — таму мы зможам зрабіць усе», — гаворыцца ў апошняй заяве партыі, прысвечанай актуальнай сітуацыі ў Каталоніі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Міхаіл Саакашвілі



Былы прэзідэнт Грузіі і цяперашні ўкраінскі апазіцыйны палітык нечакана для ўсіх вярнуўся ў палітыку ў Грузіі.

Нагадаем, што ўлетку, пасля правалу яго партыі «Нацыянальны рух» на парламенцкіх выбарах, шмат хто ў Грузіі спісаў Саакашвілі ў палітычны ўтыль. І вось яго імя зноў не сыходзіць з першых старонак грузінскіх медыя. Усё дзякуючы новай рэдакцыі грузінскай Канстытуцыі, якую былы прэзідэнт крытыкуе гучней за іншых.

Нагадаем, што Канстытуцыя, якую пралабіявала ўрадавая партыя «Грузінская мара», не спадабалася вялікай часткі грамадства. Перш за ўсё, з-за таго, што прэзідэнта будзе абіраць парламент. Катэгарычна не задавальняе апазіцыю і схема пераразмеркавання галасоў, набраных у прапарцыйных выбарах.

Агульным трыбунам усіх незадаволеных Канстытуцыяй стаў Саакашвілі, які крытыкуе яе больш за іншых. У сваёй крытыцы ён не камплексуе і заклікае суайчыннікаў да масавых беспарадкаў. І гэтыя заклікі знаходзяць рэзананс сярод пэўнай часткі грузінаў. Прычым, анансаваныя Саакашвілі выступы, на думку палітолагаў, могуць пачацца вельмі хутка. 21 кастрычніка адбудуцца выбары ў органы мясцовага самакіравання, а наступныя (парламенцкія) выбары — толькі ў 2020 годзе, калі тэма Канстытуцыі можа згубіць актуальнасць.

### Арнальда Атэгі



Адзін з лідараў баскскай левай нацыяналістычнай партыі EH Bildu агучыў амбіцыйны партыйны план стварэння незалежнай дзяржавы баскаў.

На думку EH Bildu, першым крокам у гэтым накірунку могуць быць рэзалюцыі, прынятыя парламентамі рэгіёнаў, якія нацыяналісты лічаць суб'ектамі баскскай гістарычнай тэрыторыі. Гаворка пра аўтаномную Краіну Баскаў, іспанскую супольнасць Навара і тры баскскія правінцыі, якія ўваходзяць у склад Францыі. Дэпутаты, як кажа Атэгі, павінны прагаласаваць за стварэнне Рэспубліканскай Канфедэрацыі земляў баскаў. А таксама стварыць парламент Канфедэрацыі, які пачне непасрэдныя перамовы з Мадрыдам і Парыжам наконт прызнання баскскай незалежнасці. Узмацніць пазіцыі на перамовах баскам дапаможа раздача пашпартоў грамадзян Канфедэрацыі.

Атэгі і яго аднапартыйцы не хаваюць, што рэалізацыя праекту Канфедэрацыі шмат у чым залежыць ад таго, як будзе вырашаны каталонскі крызіс. Лічыцца, што Мадрыд пагодзіцца пашырыць аўтаномію Краіны Баскаў, каб баскі не пайшлі шляхам каталонцаў. Падчас перамоваў наконт новага статусу можа быць узнятае пытанне адзінага баскскага пашпарта і парламента.

### Дональд Трамп



За што толькі ні крытыкуюць эксцэнтрычнага кіраўніка ЗША. Цяпер яму ў папрок ставяць добрае стаўленне да славутага іспанскага марака Хрыстафора Калумба.

Напярэдадні 12 кастрычніка (дзень, у які, як лічыцца, у 1492 годзе Калумб адкрыў Амерыку) Трамп публічна назваў падарожжа Калумба «амбіцыйным і смелым шляхам мужных людзей», якія «стварылі аснову для нашай вялікай нацыі».

Тут усё і пачалося. Апазіцыйныя выданні кінуліся нагадваць прэзідэнту, што спадарожнікамі каланізацыі Амерыкі стаў генацыд абарыгенаў. На думку крытыкаў Трампа, той павінен быў неяк узгадаць пра трагічныя наступствы адкрыцця Амерыкі для індзейцаў. Тым больш, што менавіта так рабіў у свой час Барак Абама.

Непасрэднай рэакцыяй на словы Трампа сталі імгненныя пастановы шматлікіх амерыканскіх муніцыпалітэтаў, якія вырашылі адзначаць 12 кастрычніка не Дзень Калумба, а Дзень карэнных народаў. На думку некаторых каментатараў, такія жарсці вакол Калумба могуць перарасці ў «калумбапад», калі апаненты Трампа пачнуць у імя талерантнасці і дружбы народаў разбураць манументы ў гонар вялікага марака.

Дарэчы, у верасні быў зарэгістраваны першы выпадак нападу на помнік Калумба. Ён здарыўся ў цэнтры Нью-Ёрка, дзе нехта пафарбаваў рукі каменнага Хрыстафора ў чырвоны колер.

# Калектывізацыя: «Самаўпраўства» ў Мінскім раёне

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Сталінскія рэпрэсіі былі вельмі разнастайнымі і шматмернымі. Яны заключаліся не толькі ў масавых расстрэлах і масавых дэпартацыях на Урал ці ў Сібір. Дзясяткі, а мо і сотні тысяч людзей былі асуджаныя не па адназначна «палітычных», а па ўмоўна «агульнакрымінальных» артыкулах.**




Адным з такіх быў артыкул 131 Крымінальнага кодэксу БССР, які гучаў наступным чынам: ***«Самавольнае ажыццяўленне свайго сапраўднага або прадпалагаемага права, з парушэннем такога-ж права іншай асобы (самаўпраўства), выклікае — штраф да трохсот рублёў або папраўча-працоўныя работы да трох месяцаў»*** (цытата паводле афіцыйнага беларускага тэксту кодэкса, асаблівасці правапісу захаваныя).

Здавалася б, дзе тое самаўпраўства і дзе калектывізацыя... Але давайце зірнём на некалькі прыкладаў асуджаных па гэтым артыкуле.

11 красавіка 1935 года «народны» суд 3-га ўчастку горада Мінска ў складзе суддзі Манько і членаў-засядацеляў Бяляўскага і Дукор разглядаў крымінальную справу па абвінавачванні Пятра Усцінавіча Сухадольскага, 54-гадовага беспартыйнага малапісьменнага калгасніка калгасу імя Варашылава Ратамскага сельсавета. Пятро Сухадольскі паходзіў з сялян-серадніякоў, не быў раней судзімы, быў жанаты і меў 6 утрыманцаў. Пятро Сухадольскі быў кавалём. Віна яго заключалася ў тым, што пры ***«самдумным»*** (так у судовым прысудзе) выхадзе з калгасу імя ДПУ ***«самаўпраўна забраў кузнечнае начынне належачае к-су. І тады толькі звярнуў, калі запатрабавала міліцыя»***. Відаць, каваля не задавальнялі ў адным калгасе ўмовы аплаты працы, і ён вырашыў перайсці ў іншы, дзе ўмовы здаваліся лепшымі. Ці спрабаваў наогул сысці з калгасу і стаць вольнанаёмным работнікам, але вымушаны быў вярнуцца ў калгас, хай сабе і іншы — мы можам толькі здагадвацца. І тут Пятра Сухадольскага чакала пастка. Калі ён прыйшоў у калгас, то "абагуліў" кузню і ўсё кавальскае начынне. Але пры выхадзе з калгасу вярнуць сваю былую ўласнасць ужо не мог — гэткая форма дзяржаўнага рабунку сялян. Сухадольскага пакаралі двума месяцамі прымусовай працы па месцы работы з вылічэннем 15% заробку.

9 сакавіка 1935 года той самы суд у складзе суддзі Шклярмана і членаў-засядацеляў Куцені і Ляндахера разглядаў крымінальную справу двух калгаснікаў калгасу «17-ы партыйны з'езд» пасёлку Полеўцы (Паляўцы?) Абчацкага сельсавета. Антон Апанасавіч Валент меў 30 гадоў, да калгасу валодаў 2,5 гектарамі зямлі, у час правядзення суду вучыўся па накіраванні калгаса на курсах трактарыстаў. 75-гадовы Сяргей Антонавіч Філіповіч меў да калгасу 4 гектары зямлі. Абое падсудных былі малапісьменнымі, беспартыйнымі, несудзімымі і жанатымі. Была ўстаноўленая ***«віноўнасць абодвух падвіноўных у тым, што ў ліпені месяцы 1934 года»*** яны ***«скасілі сваю былую на сваёй паласе канюшыну, якую ў іх калгас забраў. Сам калгас арганізаваўся ўвесну 1934 года і рашэнне агульнага сходу было, што жыта азімага кліна кожны косіць паасобку, а канюшына абагуліваецца, аб апошнім падвіноўным было добра ведама»***. Першапачаткова Антона Валента і Сяргея Філіповіча абвінавачвалі па артыкуле 241 КК БССР («Крадзеж маёмасці з дзяржаўных, грамадскіх або кааперацыйных устаноў і складаў»), санкцыяй па якім было пазбаўленне свабоды да двух гадоў. Але, на іх шчасце, па артыкуле 241 суд іх апраўдаў, замест чаго асудзіў па артыкуле 131. Антон Валент атрымаў пакаранне ў адзін месяц папраўчых прац па месцы работы ў калгасе з вылічэннем 15% заробку (атрыманага за працадні). Сяргея Філіповіча асудзілі на адзін месяц папраўчых прац умоўна.






Валенту і Філіповічу пашанцавала, што суд перакваліфікаваў іх дзеянні з артыкула «крадзеж» на артыкул «самаўпраўства». Яшчэ больш ім пашанцавала, што іх судзілі ў 1935-м, а не ў 1933 годзе, калі актыўна прымяняўся так званы «закон пра тры каласкі» (Пастанова ЦВК СССР ад 7 жніўня 1932 года «Аб ахове маёмасці дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і кааперацыі і ўмацаванні грамадскай (сацыялістычнай) уласнасці»). Згодна з гэтай драконаўскай пастановай, за крадзеж калгаснай маёмасці (незалежна ад памераў крадзяжу) можна было атрымаць вышэйшую меру «сацыяльнай абароны» (расстрэл). Расстрэл мог быць заменены пазбаўленнем свабоды на тэрмін не менш за 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Варта адзначыць, што новы калгасны лад у 1930-я гады ў Беларусі насаджаўся «са скрыпам». Сяляне ўсяляк імкнуліся пазбегнуць калгасаў, многія заставаліся аднаасобнікамі. Нават у 1937 годзе ў БССР яшчэ налічвалася больш за 100 тысяч гаспадарак аднаасобнікаў. Гэтых аднаасобнікаў абклалі непасільнымі падаткамі, і частка іх вымушаная была ўступіць у калгасы, але іншая частка пакінула сельскую гаспадарку і падалася ў рабочыя (асабліва гэта характэрна для прыгарадных сельсаветаў, справы якіх акурат разбіраў суд 3 участка г. Мінска).

15 лютага 1935 года «народны» суд гэтага ўчастку праводзіў выязную сесію ў Папярнянскім сельсавеце — у складзе суддзі Манько і членаў-засядацеляў па прозвішчах Дубовік і Грыб. Абвінавачаных было двое, і абодва былі пісьменнымі, беспартыйнымі і несудзімымі. Былы сераднякі Антось Адамавіч Шахлай меў 54 гады, быў жанаты, працаваў кавалём калгасу «Адраджэнне» з месячным заробкам 120 рублёў, апошні падатак да ўступлення ў калгас склаў 19 рублёў. Нежанаты Іван Антонавіч Шахлай 1915 года нараджэння быў выключаны з калгасу і працаваў рабочым прыгараднай гаспадаркі выдавецтва «Звязда» з месячным заробкам 63 рублі. Суд палічыў Шахлаяў вінаватымі ў тым, што ***«Шахлай Антон Адамаў ушоў з калгаса «Адраджэння» ў 1932 годзе і ўступіў у калгас «Новы свет» і абагуліў сваю маёмасць. У чэрвені месяцы, парушаючы статут калгаса, прадаў калгасны свіран за 275 руб. і грошы ўзяў у сваю карысць. Шахлай Іван Антонаў, выключаны з калгасу «Новы свет», самаўпраўна прадаў калгасны ток за 370 руб., грошы ўзяў у сваю карысць. Тлумачэнні падвіноўных, што яны не зналі, калі прадавалі, што будынкі належаць калгасу «Новы свет», не грунтоўны і абвергнуты сведкамі»***. Як бачым, пры добраахвотным выхадзе, і нават пры выключэнні з калгасу, сяляне ўжо не маглі забраць назад свае будынкі. Тым не менш, яны спрабавалі супраціўляцца і ў апошні раз распараджаліся будынкамі як сваёй уласнасцю — прадавалі для разборкі і перавозкі. Абодвух пакаралі прымусовымі працамі тэрмінам на тры месяцы: Антона Шахлая — па месцы работы з вылічэннем 20% заробку, Івана Шахлая — з адбыццём у калоніі масавых работ.

Калоніі масавых работ (КМР) ствараліся там, дзе была патрэбная рабочая сіла — пры будаўніцтве дарог, заводаў, на лесанарыхтоўках. У БССР у такіх калоніях утрымлівалі людзей з кароткімі тэрмінамі зняволення.

Фактычна ўсе пяцёра сялян з прыведзеных прыкладаў былі пакараныя за супраціў калектывізацыі. Гэта дазваляе лічыць іх палітычна асуджанымі. А спосабы пакарання сялян за ціхі супраціў калектывізацыі ў СССР былі самымі разнастайнымі.

Калі ў 1990-я гады ў Беларусі праводзілася рэабілітацыя, то рэабілітавалі асуджаных за так званыя «контррэвалюцыйныя злачынствы» па артыкулах 63–76 Крымінальнага кодэкса БССР 1928 года. Артыкул 131 успрымаўся як «проста крымінальны». Ніхто і не спрабаваў ставіць пытанне аб рэабілітацыі асуджаных па ім.

Таму і да сёння цэлыя катэгорыі асуджаных нават не лічыцца ахвярамі рэпрэсій. Гэты прабел неабходна ліквідаваць і перагледзець справы людзей, асуджаных па артыкуле 131 КК БССР 1928 года ў 1930-я гады ва Усходняй і ў 1940-я гады ў Заходняй Беларусі. Зразумела, што працэс гэты — складаны і працаглы. Каб яго распачаць, патрэбнае не толькі жаданне грамадскасці, але і палітычная воля ўладаў.

**«Новы Час» просіць звязацца з рэдакцыяй сваякоў згаданых у гэтым артыкуле рэпрэсаваных ці іншых людзей, якія што-небудзь ведаюць пра іх лёс.**

# «Каб ніводнага кулака не засталося...»

Таццяна ПРОЦЬКА

**Некаторыя беларусы часам з сумам кажуць пра тое, як добра было ў БССР. Прозвішча «Сталін» гучыць у іх з павагай. Разам з тым, менавіта Сталіну належаць ідэі, якія засталіся незагойнай ранай у многіх сялянскіх сем'ях.**

Такіх ідэй чатыры: раскулачванне, «сцягванне» хутароў, ачыстка «памежных зон», засяленне маланаселеных абласцей СССР. Самымі маштабнымі і страшнымі па сваіх наступствах былі ідэі калектывізацыі і раскулачвання.

## Мэтанакіравана і планамерна

Раскулачванне як працэс ліквідацыі найбольш заможных плыняў беларускай вёскі ажыццяўлялася ў 1929–1932 гадах пад лозунгам «ліквідацыі кулацтва як класа». Задачы і функцыі розных органаў дзяржаўнай улады ў правядзенні гэтай палітыкі былі вызначаныя пастановай ЦВК і СНК СССР ад 1 лютага 1930 года «Аб мерапрыемствах па ўмацаванні сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі ў раёнах суцэльнай калектывізацыі і па барацьбе з кулацтвам», і прынятай у дадатак да яе сакрэтнай інструкцыяй ЦВК і СНК саюзных і аўтаномных рэспублік.

Пастанова канстатавала, што кулакі павінны быць знішчаныя як клас. Асабліва актыўных дазвалялася расстрэльваць, астатніх высяляць у Сібір або ў лагеры. Інструкцыя вызначала, як усё гэта канкрэтна трэба ажыццяўляць.

Паводле інструкцыі, асноўную працу па высяленні кулакоў праводзілі выканкамы мясцовых саветаў і органы ДПУ. Выканкамы вызначалі, хто павінен быць раскулачаны, у якіх памерах варта канфіскаваць маёмасць, каго з раскулачаных і куды выслаць, а каго пакінуць на ранейшым месцы. На спецслужбы ўскладалася аператыўнае забеспячэнне высялення ў асобныя раёны, працоўнае выкарыстанне выселеных, а таксама правядзенне мерапрыемстваў па прадухіленні і ліквідацыі пратэстаў. ДПУ кантралявала таксама і дзейнасць выканаўчых органаў — каб тыя не былі залішне мяккія і не рабілі палёгкаў. Кантролем за настроямі сялянства, станам сельскай гаспадаркі займалася другое аддзяленне Сакрэтна-палітычнага аддзела (СПА) АДПУ па БССР. Не радзей за раз у 10 дзён падавалася зводка аб праведзенай аператыўнай працы, у якой асвятлялася рэальнае выкананне партыйных дырэктыў. Абагульнены матэрыял па ўсіх 4 аддзяленнях СПА падэкадна накіроўваўся ў Маскву.

«Аператыўнае забеспячэнне» прадугледжвала, у першую чаргу, кантроль за «настроямі мас», якія былі далёка не на карысць Савецкай улады. 1 красавіка 1929 года ў Маскву была дасланая дакладная запіска «Аб палітнастроі сельскай інтэлігенцыі ў БССР». У ёй, у прыватнасці, пісалася: «Варта адзначыць, што няма ніводнага моманту, што датычыцца партыі і Савецкай улады ў вёсцы, які быў бы не падвергнуты крытыцы з боку дадзенага кантынгенту асоб», — пісалі беларускія чэкісты.

## Антысавецкія і контррэвалюцыйныя

У сакавіку-красавіку 1930 года АДПУ па БССР была праведзеная праверка выканання «класавай лініі» пры крэдытаванні сялянскіх гаспадарак. Беларускія чэкісты рапартавалі ў Маскву: 50% ад крэдытаў выдзелена беднаце, 44% — звычайным гаспадарам, астатняе атрымалі адказныя работнікі і служачыя кіруючых устаноў. Спецорганы адзначалі, што, паколькі крэдыты дробныя, то яны адразу «праядаюцца» беднатой, ніяк не ўплываюць на ўмацаванне сялянскай гаспадаркі.

Кіраўніцтва БССР імкнулася занадта добра выконваць дырэктывы з Масквы і адразу рапартаваць пра іх выкананне. 10 лютага 1930 года ЦК КП (б) Б накіраваў у Маскву дакладную запіску «Аб прызнанні БССР рэспублікай суцэльнай калектывізацыі». Тэмпы калектывізацыі меркаваліся такія, каб да канца 1930 года ўся рэспубліка апынулася цалкам калектывізаванай.

Забяспечыць такія неверагодныя тэмпы без дапамогі чэкістаў было немагчыма. Для таго, каб задушыць супраціў сялян, якія не жадалі ўступаць у калгасы, іх сталі адносіць да антысавецкага элементу, а калі незадаволеныя пражывалі ў адной мясцовасці — яны залічваліся ў контррэвалюцыйныя арганізацыі ці групы. У гэтым выпадку следства вялося хутка, праблем з вызначэннем мер пакарання не ўзнікала.

У раёнах суцэльнай калектывізацыі абвяшчалася сапраўдная вайна заможным сялянам, якія не жадалі ўступаць у калгасы са сваёй маёмасцю. Заможных сялян назвалі кулакамі і падзялілі іх на тры катэгорыі. Да першай катэгорыі адносіліся тыя гаспадары, якія не проста не згаджаліся ўступаць у калгасы, але і актыўна гэтаму супрацьдзейнічалі. Выяўленне і ліквідацыя «контррэвалюцыйнага кулацкага элемента» даручалася АДПУ па БССР. Працэс



1-ы Усебеларускі з'езд калгаснікаў-ударнікаў у памяшканні мінскага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра (будынак былой сінагогі) 15—19 красавіка 1933 г. Падчас 2-га з'езду (10—12 ліпеня 1933 г.) у Наркамзем звярнулася група калгаснікаў вёскі Прыгаўка Крычаўскага раёна з просьбай «аказаць нам садзейнічанне, не дапусціць нас памерці галоднай смерцю, даць існаваць да паспявання ўраджаю і ўборкі». Пасля праведзенага расследавання ініцыятары звароту на чале з Мікітам Паньковым былі арыштаваныя. Калгас прызнаны «моцным», скаргі на голад — антысавецкай агітацыяй



Электрычнасць і радыё ў доме калгасніка П.І.Глушакова, сын якога слухае радыёперадачу (калгас ім. Валадарскага, май 1938 г.). У разгар масавых рэпрэсій і пакаранняў смерцю пэўная частка насельніцтва паляпшала свой жыццёвы ўзровень

знішчэння заможных аднаасобных гаспадарак быў названы раскулачваннем.

## У войску не схаваешся

Раскулачванне акрамя непасрэднага знішчэння аднаасобных гаспадарак меркавала таксама пошук «кулакоў», якія пранiклі ў дзяржаўныя ўстановы і асабліва ў армію.

У арміі пачаліся «чысткі». «Каб максімальна забяспечыць палітычную ўстойлівасць арміі пры правядзенні аперацый па кулацтву, сем'і, чальцы якіх служаць у арміі, высылацца не будуць. Аднак нашы органы павінны ўлічыць, што спробы ціску кулацкага элемента на войска, безумоўна будуць», — паказвалася ў цыркуляры АДПУ №25/00 ад 1 лютага 1930 года для АДПУ ў БССР. У сувязі з гэтым былі вызначаныя «канкрэтныя задачы»:

*«1. Выкарыстоўваючы аперацыі ў вёсцы, неабходна дамагчыся такога становішча, каб ніводнага схаванага кулака ў арміі не засталося. Указанне, што сем'і, чальцы якіх служаць у войску, не падлягаюць высяленню, зусім не азначае, што выяўленне і хуткая чыстка ад кулацкіх элементаў арміі павінны быць аслабленыя ці нават часова прыпыненыя, а толькі тое, што спярша трэба выдаліць чальца сям'і з апошняй, а потым толькі прымаць тыя ці іншыя рэпрэсіўныя меры ў дачыненні да сям'і. Для гэтага пры аперацыі па кулацтву трэба старанна высвятляць наяўнасць сваякоў у арміі (якія захоўваюць гаспадарча-сямейныя сувязі). Гэтыя дадзеныя неадкладна паведамляць адпаведным органам на прадмет неадкладнага выдалення чырвонаармейцаў і мл. начсаставу, чальцоў кулацкіх сем'яў, з войска»*, — паказвалася ў цыркуляры № 25/00.

**«Указанне, што сем'і, чальцы якіх служаць у войску, не падлягаюць высяленню, зусім не азначае, што выяўленне і хуткая чыстка ад кулацкіх элементаў арміі павінны быць аслабленыя...»**

«Выяўленыя» чырвонаармейцы арыштоўваліся, іх справы накіроўваліся на разгляд Асобай Нарады.

Калі шарагоўцаў і малодшы камандны састаў можна было арыштоўваць адразу, з сярэднімі, старшымі і вышэйшымі было складаней. Цыркуляр прадпісваў усталяваць за імі сачэнне, «выявіць сувязі начсаставу з кулацкімі элементамі ў вёсцы і нэпманам у горадзе, стварыўшы спецыяльны ўлік такіх». Варта адзначыць, што маштабы чыстак у арміі, якія адбыліся ў першай палове 1930-х гадоў у сувязі з калектывізацыяй, да цяперашняга часу не вывучаныя. Пра такія маштабы працы беларускіх спецорганаў могуць сведчыць наступныя дадзеныя. За перыяд з мая 1932-га па май 1933 года ў частках Чырвонай Арміі, дыслакаваных у БССР, былі ліквідаваныя 2 «контррэвалюцыйныя паўстанцкія арганізацыі» (арыштавалі 38 чалавек), 4 ячэйкі і 54 групоўкі (685 чалавек). «Вычысцілі» з арміі 1471 чалавек. З іх з Полацкага гарнізона — 27 чалавек, 6 шпіёнаў у Мінску, 10 чалавек з Аршанскага аэрапорта.

Цыркуляр прадпісваў і шэраг агульных «прафілактычных» захадаў для захавання арміі ад кулацкага ўплыву. Так, у воінскія часткі не дапускаліся сваякі або прадстаўнікі з вёсак («хадакі і дэлегацыі») са скаргамі. Іх падлягала неадкладна арыштоўваць. «Паліторганам» АДПУ прапаноўвалася звярнуць увагу на дзейнасць Бюро чырвонаармейскіх лістоў у воінскіх часцях, для таго, каб скаргі чырвонаармейцаў «на скрыўленне ў вёсцы класавай лініі» атрымлівалі б найхутчэйшы разгляд у савецкім апараце. Ім жа даручалася правесці ў войску «шырокую тлумачальную працу».

## Няма куды бегчы

У задачы спецслужбаў уваходзіла забеспячэнне гарадоў і сталіцы Беларусі ад «кулацкага ўплыву». «У сувязі з раскулачваннем па шэрагу раёнаў назіраюцца масавыя ўцёкі кулакоў у гарады, асабліва ў прамысловыя цэнтры», — паказвалася ў цыркуляры АДПУ №50/ІНФА ад 20 лютага 1930 года, накіраваным у БССР з Масквы. Небяспека кулакоў у горадзе, на думку чэкістаў, была нават большай, чым у вёсцы. «Атрымліваючы ў шэрагу выпадкаў адпаведныя даведкі ад сельсаветаў, кулакі рэгіструюцца на біржах працы і, выкарыстоўваючы зямляцкія і сваяцкія сувязі, прабіраюцца на фабрыкі, заводы, гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы і нават становяцца членамі прафсаюзаў. Адзначаны шэраг фактаў пранікнення кулакоў у працоўныя дамы і інтэрнаты, уступленне ў арцелі рамізнікаў, агароднікаў і г.д.», — напісана ў дакуменце.

Маштабы праведзенай «чысткі» і сёння ўражваюць. Ужо да мая 1930 года ў БССР па ўсіх катэгорыях было раскулачана 15 629 гаспадарак — палова з усіх гаспадарак, якія існавалі на той час.

Акрамя высялення кулакоў за межы БССР, мела месца перасяленне заможных сялян з памежных вёсак у тылавыя раёны БССР і засяленне прыгранічных вёсак «надзейнымі» сялянамі. Пытанне перасялення вырашала Тройка ПП АДПУ па БССР. Масава працэсы перасялення пачаўся з 1935 года.

**Працяг у наступным нумары**

